

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

31 САКАВІКА 2000г. № 13/4045 КОШТ 75 РУБ.









# "Пяцёркі" без мінусаў?

Трэці раз прайшоў у Мінску Рэспубліканскі фестываль дзіцячай эстраднай песні. Гэтым разам у яго назве — "Спяваем з аркестрам!" — колішняе шматкроп'е замяніў клічнік. І адразу нібы дадалося аптымістычнай пэўнасці да нашай новай цудоўнай традыцыі, распачатай Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі на чале з маэстра Міхалам Фінбергам.

Юнае аблічча фестывалю выпраменьвае свежасць, радасць і ўпэўненасць. Штогод — новыя твары, новыя галасы, новыя песні. Выканаўцы з усяе Беларусі на некалькі дзён, падчас вясновых вакацый, збіраюцца ў сталіцы, каб сваеадметнымі і гучнымі канцэртамі распачаць традыцыйную імпрэзу "Мастацтва — дзецям і моладзі". Яны спяваюць без аніякіх фанаграмаў, і Вялікая зала філармоніі поўніцца натуральным гучаннем: жывыя галасы, жывое гранне аркестра. А яшчэ — жывая беларуская мова: у тэкстах песень, у каментарыях вядучых, у прамовах афіцыйных асоб...

З 50 удзельнікаў (трох дзесяткаў сольных ды ансамблевых нумароў) дынамічнай, рухавай, без антракту і тэхнічных паўз, сёлетняй праграмы вылучыць лідэра было цяжка. Спаборнічала добрае з выдатным.

Самая маленькая салістка — Юля Дзьмухоўская з Ваўкавыска расчуліла публіку выкананнем Ханковых "Ходзікаў". А ў народных "Калядачках", праспяваных мазыранкай Насцяй Стацэнкай, уразіла каларытная "харавая аздоба" (усе аранжыроўкі зрабіў Уладзімір Ткачэнка; увесь вечар на сцэне шчыраваў узорны калектыў "Фэст" сталічнай СШ N 201 пад кіраўніцтвам Элеаноры Старажук). Каця Станкевіч (Маладзечна) запомнілася як дзяўчынка з гумарам — пэўна,

*(Працяг на стар. 2)*





# КОЛА ДЗЁН

***"Думай, народ, думай..." Гэтая немудроная сентэнцыя з верша аднаго нашага паэта вельмі ж спалучылася з дзвюма падзеямі пачатку лімаўскага тыдня, абсягі якога, як вядома, "ад пятніцы да пятніцы". Расіяне ў нядзелю, 26 сакавіка, выбіралі сабе новага прэзідэнта, а беларусы напярэдадні, у суботу, адзначалі чарговую гадавіну абвяшчэння БНР. Наколькі глыбока і сур'ёзна думалі расіяне аб тым, хто зойме крамлёўскі трон на новую рату гадоў, — іх клопат. Думалі, відавочна, усё яшчэ па-савецку, песцячы надзею на тое, што Уладзімір Пуцін, чалавек з КДБ (як калісь Юрый Андропаў), у рэшце рэшт навядзе ў Расіі цвёрды парадак. А што да нас, беларусаў, дык мы, пэўна, наогул ні аб чым не думаем, пра што красамоўна сведчыць і тое, што адбылося ў Мінску 25 сакавіка. Тысячы людзей, што свядома ці выпадкова аказаліся паблізу плошчы імя народнага песняра Беларусі, былі "рассеяны", а чалавек 200 — затрыманы. Асаблівая калатнеча была каля філармоніі. І міжволі згадвалася, што зусім нядаўна, у 1993 годзе, акурат тут, у будынку Белдзяржфілармоніі, беларусы дружна, упершыню ўсе разам, на чале з кіраўнікамі Рэспублікі Беларусь і Рады БНР урачыста адзначалі 75-ыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці сваёй краіны. Чаму ж тое гэтак хутка забылася? Што змянілася? Дзень 25 сакавіка 1918 года — дзень гістарычны. Яго не заменіць і не падменіць ні 1 студзеня 1919 года, ні 11 ліпеня 1920-га, ні 3 ліпеня 1944-га, ні ўрэшце 27 ліпеня 1991-га. Гэта ўсё — этапы гістарычнага шляху Беларусі да незалежнасці. Але ж пачатак адліку — акурат там, у дні 25 сакавіка 1918-га! Дык чаму ж трэба адзначаць гадавіну першай спробы абвясціць нашу незалежнасць выводам на вуліцы сталіцы такой колькасці войск?***

***"Думай, народ, думай!.." — пісаў паэт. І народ, вядома, думае. Марудна, натужліва, вагаючыся, але — думае.***

## ЭТАЛОН ТЫДНЯ

На пазачарговай сесіі Мінскага гарсавета зацверджаны на пасадзе мэра сталіцы Міхаіл Паўлаў. Ён паабяцаў працягваць традыцыі свайго папярэдніка, заявіўшы: "Наш горад павінен быць эталонам не толькі ў рэспубліцы, але і ў Еўропе". Гэта добра, вядома. Ды яшчэ лепш было б, каб гэты эталон набываў беларускае аблічча, а не трацiў, як зараз, нават і тое нямногае ў гэтым абліччы, што меў...

## ЗАКЛІК ТЫДНЯ

"Час зрабіць вывады з жорсткага леташняга ўрока і паўсюль прыняць неабходныя меры па стабілізацыі земляробства і кормавытворчасці ў любых пагодных умовах. Яны агульнавядомыя — максімальнае назапашванне ў глебе гумусу за кошт высокіх доз арганічных угнаенняў, аптымізацыя структуры пасеваў, павышэнне ролі канюшыны і кукурузы, самае строгае захаванне патрабаванняў інтэнсіўных тэхналогій, асабліва тэрмінаў і якасці ўсіх палявых работ". Гэта — з шапкі-заклiку "Белорусской нивы" за 29 сакавіка. Госпадзе, калі нам усім, у тым ліку і нашаму брату-журналісту, стане сорамна за падобныя заклікі, устаноўкі, павучанні, адрасаваныя хлебаробу? Калі мы будзем давяраць яму, калі перастанем перашкаджаць яму працаваць, калі ён займее правы быць сапраўдным гаспадаром зямлі?

## ПАДВЫШКІ ТЫДНЯ

Падаражэлі паштовыя паслугі. Перасылка пісьмаў падаражэла на 10, пасылак — на 8 працэнтаў. Падаражэў і праезд у міжгародніх аўтобусах. У студзені кошт аднаго кіламетра быў 5,0 і 5,7 рубля (у звычайным і мяккім аўтобусах), цяпер жа стаў 6,5 і 7,4 рубля адпаведна. На 20 працэнтаў падаражэлі і пуцёўкі ў санаторыі, прафілакторыі, дамы адпачынку. З 2,48 рубля да 3,35 узрасла і плата за квадратны метр агульнай плошчы жылля. Але мы ўжо, бадай, і не засмучаемся: прывыклі. А пенсіянеры дык нават могуць і суцешыцца: з 1 красавіка пенсіі павялічацца ў сярэднім на 18 працэнтаў. Вось і будзе баш на баш...

## ПАКАЗЧЫК ТЫДНЯ

У 1998 годзе ў Беларусі пабывала 91 229 замежных турыстаў. Летась — на 15 434 чалавекі менш. А гэта ж таксама паказчык (у дадзеным выпадку — сумны) узроўню нашага жыцця: не можам ні прыняць госця, ні штосьці паказаць яму, ні прапанаваць нешта, ні правесці...

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Сусветная статыстыка падлічыла, што кожны год насельніцтва Зямлі павялічваецца на 78 мільёнаў чалавек. Лічба — уражвае! А нас, як, дарэчы, і расіян, год ад году — меншае. Зрэшты, і ў Еўропе не назіраецца дэмаграфічнага буму. Але ж прычыны гэтага там — зусім іншыя...

## ПРАСВЯТЛЕННЕ ТЫДНЯ

Горацкі раён — аўтсайдар па сельскагаспадарчых паказчыках на Магілёўшчыне. А між тым у ягонай раённай "сталіцы" знаходзіцца флагман беларускай сельскагаспадарчай навукі — слаўная БСГА. Шмат гадоў вучоныя не звярталі ўвагі на ганебны стан сельскагаспадарчай вытворчасці ў сябе лад носам. Цяпер — спахапіліся. У акадэміі створаны брыгады вучоных, якія будуць кансультаваць і на практыцы вырашаць вытворчыя задачы ў калгасах і саўгасах раёна. Ну як тут не ўсклікнуць: Віват акадэмія!

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

У сераду, выступаючы ў Савеце Федэрацыі РФ, ягоны старшыня Я. Строеў назваў страшную лічбу: летась у Расіі загінула 700 чалавек, у тым ліку нямала дзяцей і падлеткаў, у выніку таго, што яны здымалі з дзеючых электраліній алюмініевы дрот, каб здаць яго на металалом ці прадаць перакупшчыкам. Сапраўды, розумам Расію не зразумець.

## ЛІСТ ТЫДНЯ

"Совбелка" 29 сакавіка змясціла ліст настаўніцы пачатковых класаў СШ N 72 горада Мінска А. Васькінай пад назваю: "Шчасце — калі шмат грошай?" Яна 17 гадоў прапрацавала ў школе, муж — 21 год на маторным заводзе, гадуюць двух сыноў. Спадзяваліся палепшыць сваё жыллё, ды надзею страцілі. І калі старэйшы сын сказаў, што не верыць у прымаўку "Не ў грашах шчасце", маці-настаўніца стала яму пярэчыць, а пасля — задумалася. Вось так і з'явілася яе пісьмо на старонках "СБ". А колькі з нас могуць, вымушаны задаваць сабе такое ці падобнае пытанне? Тысяча, сто тысяч, мільён, пяць мільёнаў? Ды бадай што так...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Вялікае святкаванне ў гонар 160-годдзя Францішка Багушэвіча адбылося на яго радзіме — у Жупранах, Кушлянах, Смаргоні. Удзельнікі свята пабывалі на магіле паэта, дзе ўсклалі кветкі, у музеі-сядзібе Ф. Багушэвіча ў Кушлянах, выступілі ў Кушлянскім сельскім Доме культуры.

А вечарам у Смаргоні, у раённым Палацы культуры адбылася вялікая вечарына, у якой бралі ўдзел лепшыя самадзейныя калектывы раёна, прадстаўнікі грамадскасці, мясцовых улад, Гродзенскага аблвыканкама, Міністэрства культуры краіны, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Саюз пісьменнікаў быў прадстаўлены Навумам Гальпяровічам, Уладзімірам Содалем, Леанідам Дранько-Майсюком і Алесем Жамойціным.



*На здымку: у час святкавання 160-годдзя Ф. Багушэвіча.*
*Фота Я. ПЯСЕЦКАГА*

Вечарына, прысвечаная 75-годдзю паэта з Беласточчыны Віктара Шведа, прайшла ў вялікай зале Дома літаратара. Слова пра юбіляра казалі Уладзімір Казбярук, Уладзімір Гніламёдаў, Маргарыта Яфімава, Міра Лукша. Вершы Віктара Шведа чытала артыстка Галіна Дзягілева, літаратурна-музычную кампазіцыю паводле паэзіі госця з Польшчы паказалі студэнты Універсітэта культуры.



*На здымку: у час вечарыны В. Шведа.*
*Фота Ул. КРУКА.*

У заключэнні выступіў сам ветэран, які пазнаёміў прысутных са сваімі новымі творамі.

Вяла вечарыну в. а. старшыні Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава, якая ўручыла Віктару Мікітавічу ганаровы адрас і грамату пісьменніцкай арганізацыі. У арганізацыі візіту гасцей з Беласточчыны дапамогу аказаў Польскі інстытут у Мінску.

•

Цёпла сустрэлі ў Іллянскай сярэдняй школе Вілейскага раёна свайго былога выпускніка, паэта і перакладчыка з Віцебска Уладзіміра Папковіча. Паездку на радзіму Уладзіміра Антонавіча, які ў гэтыя дні адзначыў сваё 65-годдзе, арганізаваў Саюз пісьменнікаў і аддзел адукацыі Вілейскага райвыканкама. На сустрэчу разам з вучнямі і выкладчыкамі прыйшлі і былыя настаўнікі Папковіча, яго землякі і родныя.

Госці наведалі школьны музей літаратуры, пакінулі запісы ў кнізе ганаровых наведвальнікаў, дамовіліся аб супрацоўніцтве паміж школай і Саюзам пісьменнікаў. Узначальваў дэлегацыю намеснік старшыні саюза Навум Гальпяровіч.

ВАРУНКІ

# Хто выйграў і хто прайграў?

Падзеі 25 сакавіка досыць падрабязна адлюстраваны ў прэсе, іншых сродках масавай інфармацыі. Таму пра тое, што было, нагадаем толькі ў агульных рысах. Апазіцыя, якая не першы раз ладзіць у цэнтры Мінска шэсце і мітынг да ўгодак абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка, замовіла акцыю і сёлета. Прытым, пасля поспеху "Маршу свабоды-2", калі ў будзённы дзень ды пры кепскім надвор'і пад бел-чырвона-белыя штандары сабралася да паўдзесяці тысяч чалавек, арганізатары цалкам маглі разлічваць і на большую колькасць удзельнікаў.

Каб пазбавіць апазіцыю моцнага аргумента ва ўмовах так званага "шырокага дыялога", улады шэсце забаранілі, а мітынг дазволілі правесці на гарадской ускраіне, далей ад людскіх вачэй — ля пляца Бангалор. Каб не абвастрыць сітуацыю, арганізатары акцыі на Бангалор згадзіліся. Збор дэманстрантаў быў прызначаны на 12 гадзін на плошчы Якуба Коласа.

Што было далей нашы чытачы ўжо ведаюць. Альбо з газет, альбо бачылі на ўласныя вочы. Бэтээры, вадамёты, сабакі, амонаўцы ды розныя іншыя ў камуфляжы. Сарванае шэсце, сотні арыштаваных, сярод якіх свядомыя ўдзельнікі святкавання Дня Волі, выпадковыя мінакі, дыпламаты, журналісты.

Цяпер пра вынікі. "Карцінка", з'яўленне якой усімі сіламі ўлада спрабавала не дапусціць, усё ж адбылася. Прычым нават больш эфектная, чым можна было б чакаць. Бронетэхніка на вуліцах сталіцы — незабыўнае відовішча.

Хто выйграў і хто прайграў у супрацьстаянні 25 сакавіка? Хоць у такіх варунках не бывае пераможцаў, сітуацыя ўсё ж такі камусьці на карысць, а камусьці — не. На першы погляд выйграла ўлада, у чарговы раз прадэманстраваўшы сваім апанентам "хто ў хаце гаспадар". Але відавочна, што пасля 25 сакавіка апазіцыя пашырыла кола сваіх прыхільнікаў. Бо ахвярамі сталі не толькі тыя, хто спецыяльна ў гэты дзень прыйшоў на плошчу, але і мноства людзей выпадковых — ад школьнікаў да пенсіянераў.

Калі назаўтра пасля Дня Волі адбыліся б выбары, кандыдаты ад улады аказаліся б у незайздросным стане.

Сёння пасля 25 сакавіка апазіцыя і ўлада яшчэ далей ад паразумення, чым у той момант, калі распачыналіся перамоўны працэс пад эгідай Еўропы. Сёння шанцаў на выйсце з палітычнага крызісу яшчэ паменела.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

# "Пяцёркі" без мінусаў?

(Працяг. Пачатак на стар. 1)
дзякуючы песні "Прыгоды папугая", напісанай яе педагогам, кампазітарам Аленай Атрашкевіч. Насця Жыгалік, васьмігадовая навучэнка ДМШ па класе скрыпкі з Гродна, "выбівалася" сваім не па гадах магутным, глыбокім, інтанацыйна чыстым голасам: адкуль толькі браўся гэткі зычны народны вакал! Спанатраным артыстам выглядаў рэчыцкі "рэтра-альт" Сяргей Якуш. А Раман Мамчанка з вёскі Ходасы Мсціслаўскага раёна звярнуў на сябе ўвагу не толькі драматычнай песняй ("Выратуй, Божа, лёс дзяцей Чарнобыля" Ганны Казловай), але і незвычайным, расквечаным абертонамі, тэмбрам голасу...

Не дзіва, што журы, у складзе якога былі навучэнцы музычных школ краіны, не скупілася на "пяцёркі" (хаця сяды-тады юныя арбітры ацэньвалі выступленні сваіх аднагодкаў таблічкамі з лічбаю "4", а то і "3"). На "пяць" спрацавалі арганізатары фестывалю. Усю праграму ў літаральным сэнсе слова выстаяў мастацкі кіраўнік, маэстра М. Фінберг, хор "Фэст" з Э. Старажук, вядучая Ларыса Грыбалёва. Удзельнічалі ў імпрэзе народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, і, вядома ж, гукарэжысёры Уладзімір Пазняк, Алег Хромаў, Ігар Нікіцін, і мастак-пастаноўшчык Веніямін Маршак, і майстар асвятлення Сяргей Барталевіч...

Жывы гук — без "мінусовак". Шчодрыя "пяцёркі" — без мінусаў.

Хаця, калі падумаць, — быў і мінус. Істотны. Фестываль зноў выявіў недахоп арыгінальнага, сучаснага, прыдатнага для выканання дзецьмі песеннага рэпертуару. Сёе-тое "пазычалася" ў Алесі ды "Бяседы", "Палаца" ды "Песняроў". Але гэта ўжо вынік даўняй праблемы — праблемы заахвочвання кампазітараў, паэтаў, якія амаль перасталі пісаць для дзяцей, бо песня як жанр усё мацней укручваецца ў рынкавыя стасункі, робіцца атрыбутам эстраднай камерцыі.

Як выправіць гаротнае становішча беларускай эстраднай дзіцячай песні? Пытанне, відаць, да тых, каму наканавана кіраваць "рэпертуарнай палітыкай". І калі ўжо Міністэрства культуры Беларусі, упраўленне культуры Мінгарвыканкама, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія падтрымліваюць арганізацыйную ініцыятыву Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, ім варта паклапаціцца і пра стымул для творцаў новых песень.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ПРУПАСА*

# Зацемкі з левай кішэні

Леанід ГАЛУБОВІЧ

НАДВЯЧОРКАМ вяртаюся з "Крыніцы" дахаты. Спускаемся па Кісялёва ўніз да "Круглай" разам з Акудовічам і Станкевічам. Абсмоктваем сваю "крынічную" смагу... Апатыя, стома, злосць...

Насустрач нам, ад плошчы, валюхаецца бомж. Валацуга нямыты, зашмальцаваны, зарослы і тварам дзікі... Прэ на нас, не зважаючы, як на таран...

І ўжо вырульваючы з-пад яго, зрабіўшы піруэт, і ледзь стрымліваючы лаянку на вуснах — раптам! — пераглядаемся, крыва пасміхаемся, недзе ўнутры сябе прытойваючы няёмкасць і прысаромленасць...

На замызганым лацкане пакамечанай курткі бомжа сіратліва, але настырна-смела паблісквае ў промнях заходзячага сонца бел-чырвона-белая значка...

Далей сунемся моўчкі, кожны думаючы *пра сваё*, ужо разумеючы, што ўсё яно *наша...*

❑

Амаральныя людзі пішуць кнігі, малюююць карціны, ставяць спектаклі, здымаюць кіно...

Не менш амаральныя — усё гэта чытаюць, разглядваюць, абмяркоўваюць, захапляюцца, крытыкуюць, ухваляюць...

Усе астатнія — слепнуць, глухнуць, нямеюць...

А дзе мараль?

Як і ва ўсіх байках, яна чакае нас напрыканцы...

❑

Яшчэ раз перачытваю "Апологию сумасшедшего" Чаадаева...

Якая тонкая і прадбачлівая яснасць розуму!

❑

Натыкаюся ў Георгія Іванава:

"Рассказать обо всех мировых дураках,

Что судьбу человечества держат в руках?"

Найбольш геніяльнае і абсалютна дакладнае тут — пытальнік...

❑

Я люблю кнігі... Люблю іх не толькі чытаць, але і проста трымаць у руках, разглядваць, абмацваць, гартаць, наталяцца іх пахам...

Кніжкі, як жанчыны... Прыцягваюць — свежыя й нечапаныя, а задавальняюць — абазнаныя й зачытаныя....

❑

Аднойчы паказалі па нашым інтэрнацыянальным тэлебачанні двух братніх паэтаў: рускую — Рыму і беларуса — Алеся...

Якая пара! З якой вады?!

❑

Клятва — для мяне закон. Калі мне трэба нечаму прысягнуць альбо ад нечага адрачыся, я даю клятву. Прытым стараюся рабіць гэта прылюдна, каб пасля немагчыма было, без страты ўласнага гонару, *забраць* свае словы назад...

Так я пакідаў піць, што далося не без вялікіх цяжкасцяў, пасля — курыць, цяпер — пісаць вершы... Я ўпэўніў сябе, што ўсё *сваё* я ўжо выпіў, выкурыў і зарыфмаваў...

Многія асцерагаюцца даваць клятвы — і гэта моцныя, мужныя і сумленныя людзі, тыя, што слоў на вецер не кідаюць.

Бальшыня ж людзей — слабыя і ўвогуле не здольныя на сур'ёзныя ўчынкі. І клянуцца ці не клянуцца — яны, як вецер...

Аднак клятвамі нельга злоўжываць, бо такім чынам можна ўсё жыццё прымусова звесці да скону...

І калі адчуваеш сваю чалавечую слабіну, то лепш не кляніся, асабліва Богам, маці і дзецьмі...

Жыві як *можаш*, покуль нехта жыве як *хоча...*

❑

Я — не трыбун і не рытар. У вусных выступах вецер эмоцый заносіць мяне вышэй магчымасцяў майго натуральнага лёту... Таму пасля даводзіцца падаць, кіруючыся на ўсякую гнуткую гольку, каб толькі ўшчэнт не разбіцца...

Трэба асцерагацца займацца тым, да чаго ты не здольны.

❑

Да 75-годдзя Віктара Астаф'ева Ельцын узнагародзіў яго самым высокім ордэнам, гэткім, ад якога год таму назад адмовіўся сам Аляксандр Ісаевіч Салжаніцын...

Адчувалася, што ў душы Астаф'ева была пэўная раздвоенасць, таму ён не прыдумаў нічога іншага, як схавацца ў тэлеінтэрв'ю за іронію, выдадзеную з ягоных вуснаў нібыта ўсур'ёз: маўляў, няма чаму радавацца ў 75 гадоў... сядзець бы ў сваёй Аўсянцы ля печкі ды лускаць семкі... альбо ўвогуле з'ехаць у тайгу, у такія месцы, дзе ніхто не знойдзе... але ж яму, во, сказалі: ну, Пятровіч, цябе сам народ патрабуе!..

Куды патрабуе? У Маскву? Чаго? За ордэнам?..

На самай жа справе Астаф'еў разумее, чаго патрабуе рускі народ... Але...

Вось жа, у кожнага з нас гэтае ахоўнае "але", як у адданага сабакі гаспадарскі аброжак...

І хоць Астаф'еў — адзін з найбольш любімых мною сённяшніх рускіх пісьменнікаў і, як мастак, *мацнейшы* за Салжаніцына, але ў дадзеным выпадку я — на баку *слабейшага...*

❑

Вось**палова**жыцця й адляцела пад ветрам часу...

❑

Савецкая літаратура настолькі дакладна паўтарала ідэалагічны абрыс жыцця, што нічым з яго не вылучалася...

Пераважна такой яна засталася й цяпер...

❑

Раман Тармола распачаў, а Мікола Гіль тое-сёе ўдакладніў пра сваю літаратурную маладосць... Мне найперш запомнілася гэта.

Аднойчы ў інтэрнаце БДУ, на Свярдлова, 34, заспрачаліся Блатун, Барадулін, Стральцоў, Гаўрусёў і ўжо ўпомнены намі Гіль, хто з іх складзе сабе самому найлепшую эпітафію, а заадно й намалюе эскіз будучага надмагільнага помніка...

Вясёлыя былі хлопцы і да таго *жывыя*, што й згадкі пра ўласную смерць не палохаліся...

У рэшце рэшт перамог Сымон Блатун. Гэта прызналі адзінадушна. Помнік яго меў арыгінальны, але даступны па фантазіі і кошце, выгляд: на пастаменце — пустая пляшка, на этыкетцы — надпіс:

***Пакінуў піць***
***бо спіць***

Пераможцу вызвалілі ад грашовага ўзносу на чарговую п'янку...

А ўжо праз пару гадоў Сымон і загінуў... Смерць яго была і застаецца цёмнаю...

І "эпітафію" сабе ён усё-ткі напісаў іншую:

***І скажуць:***
***"Быў яшчэ ж ён малады..."***
***Паўстану я ў кагосьці прад вачыма.***
***Зязюлямі падлічаць мне гады***
***Суцішана трывожныя жанчыны.***
***І скажуць так: "Ляжаў ён,***
***як жывы..."***
***Упершыню спагадліва і шчыра.***
***Цішэй вады, ніжэй травы...***
***Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы, —***
***Я адлятаю ў свой далёкі вырай.***

❑

Мы нейк хутка забываем пра спадчыну сваіх таленавітых пісьменнікаў. Згадаем да якой круглай юбілейнай даты — і ўсё. Не перачытваем, не ўчытваемся, не абмяркоўваем, не здзіўляемся...

Вызначылі для сябе яшчэ за саветамі тузін "неприкасаемых" класікаў і абсмоктваем іх з усіх бакоў, нібы карамелькі...

А я вось зноў сеў за Міколу Лобана. Такім удумлівым, наперад мыслячым літаратарам мы павінны былі б ганарыцца, вылучыўшы ў яго тое лепшае, што нам заўжды на патрэбу, ды хоць бы вось гэтыя мыслярскія высокамастацкія эсэ "Пяць раніц тыдня"...

Пагадзіцеся, што аддаўшы больш як пятнаццаць гадоў жыцця для напісання рамана-трылогіі "Шэметы", наўрад ці ў каго з літаратараў хапіла б духу і адвагі, каб услед **свайму** напісаць такое: "Не, мы не ўмеем пісаць раманы. Яны ў нас атрымліваюцца падобнымі на кісель, кволымі і аморфнымі, на пладовае дрэва, з якога абтрэслі плады і замянілі іх мёртвай бутафорыяй. Мастацкі твор, у прыватнасці раман, пры ўсёй яго шматпланавасці і поліфанічнасці павінен быць **складным і лаканічным, як атам высокавалентнага элемента** (выдзяленне маё. — **Л. Г.**). Але сказанае пра раман — не ўсе прэтэнзіі да яго. Ілля Эрэнбург неяк сказаў пра славутае пано Пабла Пікасо "Герніка", напісанае ў разгар грамадзянскай вайны ў Іспаніі, што ў гэтым творы прадчуваецца трагедыя Хірасімы. Мне хочацца гэтую асаблівасць мастацкага твора, яго ідэйнага зместу бачыць і ў буйных літаратурных творах як мару, закладзеную ў яго глыбінным падтэксце".

Заўважу, што гэтая і наступная цытата ў цытаце пісаліся за бальшавіцкім часам і, што найбольш уражвае, тады ж і друкаваліся ў савецкім дзяржаўным выдавецтве "Мастацкая літаратура" (1984 г.).

Вось яно: "Гэта не я кажу, **такія словы я баюся прамовіць, такія словы я не маю права прамовіць** (якая мужная "іезуіцкая" хітрасць сапраўднага мысляра па тым часе, падкрэслена мною. — **Л. Г.**), яны належаць вялікаму Рамэну Ралану. У іх многа праўды". (!!! — **Л. Г.**).

"Я, мастак, сам першы малю аб наступленні таго моманту, калі мастацтва ўвойдзе ў тоўшчу народа, ачышчаным ад сваіх прывілей, ад пенсій, ад ордэнаў, ад казённай славы. Я заклікаю гэты час у імя вартасці мастацтва, якое гадзіцца тысячамі паразітаў, што ганебна жывуць за яго кошт. Мастацтва не павінна быць кар'ерай, яно павінна быць прызваннем. Прызнанне можа быць пазнана і праверана, толькі калі вучоны і мастак ахвяруюць сваім спакоем і дабрабытам, каб следаваць свайму прызванню. Але пры сучаснай цывілізацыі толькі сапраўды вялікія мастакі нясуць сапраўдныя ахвяры; адны яны сустракаюцца з цяжкімі перашкодамі, таму што адны адмаўляюцца прадаваць свае думкі, прастытуіраваць сябе для задавальнення разбэшчанай кліентуры, якая шчодра аплачвае тых, хто наладжвае для яе разумовыя дэбошы. Калі мы знішчым прывілеі мастацтва і ўскладнім доступ да яго, няма чаго баяцца, што мы гэтым павялічым пакуты сапраўдных мастакоў, — мы толькі адкінем натоўп дармаедаў, якія бяруцца за разумовую працу толькі для таго, каб адрозніваецца ад народа і ўхіліцца ад больш цяжкай працы".

Спадзяюся, не стаміў вас, хоць і чужым, але затое якім адважным розумам! Ён варты і нашай сённяшняй увагі.

І ўжо зусім наастатку — заключная цытата з эсэ Міколы Лобана "Пяць раніц тыдня", з перадапошняй, "чацвёртай раніцы", названай "Няпрошаны радок": "Сацыялістычную культуру таксама ствараюць тыя, хто глыбока разумее сутнасць сацыялістычнага грамадства. Не, **адшчапенцамі іх не назавеш**. Гэта будаўнікі камунізма, гэта людзі, якія страсна вераць у гэту мэту, людзі шчырыя, прынцыповыя і, калі хочаце, **злыя ў сваёй веры**". (Падкрэслена мною. — **Л. Г.**).

Здаецца, мне што той **злой веры** ў нас было і засталося аж залішне... А вядома, дзе лішне злога, там бракуе добрага...

❑

Кажуць, чарапахі жывуць да трохсот гадоў...

Тры гады назад купілі мы дачцэ невялікую азіяцкую чарапашку. Адну зіму яна ў нас перажыла, другую... А вось сёлетняй халоднай вясны — не адолела...

Жыла б на тэрыторыі якога туркменбашы, пераграбала б паціху цёплы пясок, бы час адвечны... Не, прыпёр жа яе нехта на згубу ў Беларусь... Хіба тут што выжыве?!

❑

Як там у "Бібліі": "Спачатку было Слова і Слова было ў Бога, і Богам было Слова", і "Бог стварыў чалавека падобнага да сябе", гэта значыць, падобнага да Слова...

Усё з'явілася ў Слове, выявілася ў Ім і доўжыцца з Ім...

Мы — толькі *фанетыка...*

❑

Нечакана наткнуўся ў кніжнай шафе на даволі таўсматы том Рычарда Олдзінгтона "Все люди — враги"... Не магу даўмецца, адкуль у мяне ўзялася гэтая "не мая" кніжка...

І раптам жонка згадвае, што яе мне на саракагоддзе (ледзь не напісаў — саракавіны) падараваў мой родны брат Коля...

❑

Здаецца, упершыню за ўвесь час майго прафесійнага пісьменства падышоў да мяне знаны паэт — не, не той, што пра думаючага Леніна пісаў, а той, што — пра Спартака-паўстанца — і папрасіў прабачэння за свае "хістанні" пры абмеркаванні "крынічнага" *пытання на адной з апошніх радаў* СБП...

Хапіла ж у чалавека мужнасці!

Па сутнасці, ён мяне калісьці з абласной Крывошынскай псіхушкі вывалак, можа, да гэтай пары не разумеючы, што выратаваў мяне ад пагібелі...

А з *гэтай Вар'ятні* ён ужо й сам не ведае як вылузацца... Можа, таму і папрасіў прабачэння... Ці скажам больш дакладна — і таму можа...

❑

9 Мая... Як мы ўшаноўваем мёртвых! Каб жа так шанавалі й жывых...

❑

Як толькі *чалавек* пакідае мацярынскае лона — ён адразу ж становіцца на-родам...

❑

Чаму напрыканцы XX стагоддзя так рэзка пахіснуліся адносіны да класічнай літаратуры? Ці не таму, што ўсё "класічнае" як бы створана людзьмі "з адхіленнямі", на якіх акцэнтавалася больш увагі, чым на саміх творах?..

Рэмбо і Верлен — гомікі, Пушкін — "дон-жуан", Ніцшэ — вар'ят, Ясенін — алкаголік, Хлебнікаў — бомж і г. д.

Людзі стаміліся пакланяцца "праклятым паэтам"?..

❑

Секс — гэта жывёльны інстынкт, чыста фізіялагічны пожад.

Мы ж, найчасцей, займаемся ім свядома, выклікаючы ў сабе жаданне разумовага, грахоўна-штучнага секса...

Адсюль — няма поўнай гармоніі ў задавальненнях. Жывёльны інстынкт ёсць толькі прычынай захавання і працягу роду. Чалавечае ж, свядома-разумовае сексуальнае жаданне, апроч таго — родавага, а мо ўжо й найперш, ёсць яшчэ й працягам задавальненняў жыцця...

Каханне спараджае секс, а секс губіць каханне...

Мала шчаслівых, ды шмат задаволеных...

❑

Нябожчыкаў перад пахаваннем абмываюць...

Нават у чорную зямлю чалавек павінен класціся чыстым...

❑

З газеты "Навіны" даведаўся, што вось і паэт Веніямін Блажэнны (Айзенштадт) памёр. А да мяне даходзілі чуткі, што ён з'ехаў у ЗША ці то ў Ізраіль... Выходзіць, памёр усё-ткі тут...

Не зважаючы на яго яшчэ такія нядаўнія цынічныя выпады ў адрас беларускай мовы і літаратуры, не буду яму ўпадабняцца...

Скажу так: гэта быў сапраўды таленавіты паэт. Здаецца, год таму я купіў яго зборнік і быў добра ўражаны непадробнай паэзіяй...

Праўда, як у жыцці, так і ў паэзіі, Блажэннага, на мой погляд, залішне ўжо апекавалі і Бог, і Пастэрнак, і шмат хто яшчэ, асабліва на сконе жыцця... І калі сам Гасподзь "снизошел" да Блажэннага, то сам Айзенштадт "напрасіўся" да Пастэрнака...

*Бог вёў яго праведным шляхам, а Пас*тэрнак заўжды заблытваў дарогу...

Урэшце — абодва яны — супакоіліся... У Бозе і ў паэзіі...

Пухам вам, Веніямін Міхайлавіч, зямля наша.

❑

Хто — за мяжой, хто *на мяжы*, хто ў апазіцыі...

Таго — *зарэзалі*, гэтых — *б'юць*, маладых — *душаць...*

Госпадзе, ці не ёсць я сёння адзіным *жывым* літаратарам на Беларусі?!

*Студзень-ліпень 1999 г.*

*г. Мінск*



ЧАСАПІС

## "Аняменне"

**Так называецца кніга, падрыхтаваная Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што пабачыла свет у Вільні. Падзагаловак яе "З хронікі знішчэння беларускай мовы" гаворыць сам за сябе. А адкрываецца зборнік словам цяперашняга старшыні ТБМ А. Трусава "Шлях на Галгофу: драматычны лёс беларускай мовы".**

**У раздзеле ж "Замест прадмовы" змешчаны выступленні папярэдніх старшыняў ТБМ Н. Гілевіча і Г. Бураўкіна: адпаведна на адкрыцці Нацыянальнай навуковай канферэнцыі "Дыскрымінацыя беларускай мовы на Беларусі: гістарычны,**



**палітычны і лінгвістычны аспекты", што праходзіла 30 сакавіка 1996 года ("Ёсць Божы суд і справядлівасць!") і на Кангрэсе дэмакратычных сіл Беларусі, які адбыўся 30 студзеня 1999-га ("Боль і трывога"). У гэтым жа раздзеле прапануецца і "Зварот Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны да ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі", прыняты 11 снежня 1998 года на пасяджэнні Рэспубліканскай Рады ТБМ.**

**Змест усіх гэтых матэрыялаў зводзіцца да таго, што ў беларускай дзяржаве склалася трывожнае становішча з беларускай мовай. Асабліва яно пагоршылася апошнім часам. І з гэтым нельга мірыцца: "Таварыства беларускай мовы звяртаецца да ўсіх дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый, да ўсіх грамадзян Беларусі з заклікам: нашай задачай павінна стаць змаганне не толькі за сацыяльныя і палітычныя правы, але і за нацыянальнае разняволенне. Выратаванне роднай мовы — наш маральны і грамадскі абавязак. Быць палітыкам у дзяржаве, не ведаючы мовы тытульнай нацыі і не карыстацца ёю, — нонсенс. Да кіраўніцтва дзяржавай павінны прыйсці нацыянальна свядомыя людзі. Час вымушае нас як мага хутчэй скансалідаваць намаганні на павышэнні прэстыжу беларускай мовы — нашай нацыянальнай святыні, неацэннага скарбу для будучых пакаленняў!".**

**Асноўныя матэрыялы прадстаўлены ў раздзелах "У кантэксце гісторыі і палітыкі", "Лінгвістычны аспект", "Моўная дыскрымінацыя ў адукацыйнай сферы", "Апублікавана ў СМІ". Як бачым, тэматыка шырокая, але гэта ўсё артыкулы, даследаванні, у якіх у той ці іншай ступені выкрываецца палітыка русіфікацыі, што каранямі сваімі пачынаецца ў мінулых стагоддзях, калі беларуская мова забаранялася.**

**З-за абмежаванасці памеру зборніка, некаторыя матэрыялы падаюцца ў скарочаным выглядзе, але сутнасць ад гэтага не мяняецца, бо і прыведзеных фактаў дастаткова, каб упэўніцца: над існаваннем беларускай мовы працягвае існаваць небяспека.**

**Цікавыя матэрыялы, у якіх закранаюцца розныя пытанні, што тычацца моўнага нармавання, выкарыстання беларускай мовы ў сферы навукі. Некаторыя з іх у чымсьці маюць відавочна дыскусійны характар, але пераважаюць цікавыя меркаванні, аб чым, у прыватнасці, сведчыць артыкул кандыдата фізіка-матэматычных навук Л. Майсені і В. Юферава "Знішчэнне беларускай адметнасці ў матэматычнай тэрміналогіі".**

**Увогуле, кніга "Аняменне" — гэта запрашэнне да дыялогу, а дыялог найбольш плённа адбываецца тады, калі суразмоўцы не толькі пагаджаюцца адзін з адным, а і ўзаемна дапаўняюць сябе, а ў выніку адбываецца ўдакладненне асобных вельмі важных момантаў, а гаворка пачынае набываць больш шырокі і канцэптуальны характар. Бо, у рэшце рэшт, трэба пагадзіцца з тым, што кожны, хто любіць сваю краіну па-сапраўднаму і таксама любіць свой народ, неабыякавы да таго, які лёс напаткае беларускую мову, а ісціна адкрываецца ў сутыкненні розных поглядаў, калі і ўдаецца знайсці залатую сярэдзіну.**

**Завяршае кнігу "Пасляслоўе", у якое ўвайшлі артыкулы А. Вярцінскага "Мы — народ, што адвык ад слова?", Р. Гарэцкага "Не дамо загінуць мове роднай" і прамова народнага паэта Беларусі Н. Гілевіча на XII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Свет, поўны дзівосаў

Калі паспрабаваць у некалькіх словах выказаць уражанне ад новай кнігі Уладзіміра Мацвеенкі "Загадкі з хаткі дзеда Уладкі", бадай, найлепш падыдуць гэтыя: ярка, арыгінальна, непаўторна. І, канечне ж, надзвычай адметна. У. Мацвеенка, як і ў папярэдніх сваіх зборніках (прынамсі, у "Сябрынцы", адзначанай Літаратурнай прэміяй імя Янкі Маўра), піша так захоплена, што і даросламу цікава пазнаёміцца з творамі. А творы гэтыя развіваюць фантазію, выклікаючы роздум, спрыяюць пашырэнню кругагляду. А яшчэ, што вельмі важна сёння, калі знаходзіцца ахвочыя сцвярджаць, што беларуская мова значна бяднейшая за "вялікія" мовы, паказваюць, якія багатыя ў яе семантычныя магчымасці, наколькі шмат слоў, якія хораша на душу кладуцца і гучаць лёгка, запамінальна. Больш таго, адным і тым жа словам нярэдка можна перадаць розныя паняцці. У. Мацвеенка тым самым дае і ўрокі роднай мовы, а ў асобных выпадках — гэта і ўрокі літаратуразнаўства. І, як заўсёды, ненавязлівыя, а ўдумліва-засяроджаныя, а таму і такія патрэбныя.

Як відаць з назвы, асноўны змест кнігі складаюць загадкі. І не толькі звычайныя, а і загадкі-рыфмаванкі, загадкі-задачкі, загадкі-жарты, акразагадкі і акравершы, а да ўсяго і азбука ў загадках, што з'ява унікальная.

Разумею, арыфметычныя падлікі, калі гаворка тычыцца такога паняцця, як майстэрства, рэч няўдзячная, і ўсё ж без іх у дадзеным выпадку не абысціся. Ва ўсякім разе не лішне засведчыць, што У. Мацвеенка прапаноўвае дзецям (кніга ў першую чаргу адрасуецца малодшаму школьнаму ўзросту)... Колькі б вы думалі загадак? Ды ажно 256!

Скажыце, у каго яшчэ, нават з самых слынных дзіцячых пісьменнікаў, знойдзецца столькі твораў падобнага жанру? Штосьці не магу прыгадаць. Аднак куды важней, што загадкі У. Мацвеенкі — гэта загадкі, якія так і хочацца... адгадваць. І нават тыя з іх, што, як на першы погляд, асаблівай цяжкасці ў "расшыфроўцы" не выклікаюць. А ўсё таму, што паэт цудоўна разумее дзіцячую псіхалогію і ведае, наколькі важна для хлопчыка ці дзяўчынкі стварыць адпаведную атмасферу, калі на нешта хочацца абавязкова (і як мага хутчэй) знайсці адказ. А таму можна выкарыстоўваць і простыя рэчы (з'явы, прадметы, паняцці і г. д.), але рабіць гэта так, каб адказ хоць у нечым і знаходзіўся на паверхні, і аднachасова прымушаў задумацца. А, магчыма, пры неабходнасці, прымушаў дзяцей і дарослых на дапамогу паклікаць. Каб разам паспрабаваць разабрацца, што і да чаго, бо і, здавалася б, простая загадка пры адпаведнай падачы не адразу адкрывае свае сакрэты:

*Моўчкі ідзе,*
*Моўчкі ўпадзе,*
*Моўчкі ляжыць,*
*А памрэ — пабяжыць.*

Калі знойдзеш адгадку — як быццам, усё працей простага. Канечне ж, аўтар меў на ўвазе снег. Але гэта не значыць, што кожнае дзіця хутка выйдзе на такое паняцце. Камунебудзь давядзецца і даволі шмат падумаць, перш чым радасна ўсклікнуць, што адказ вядомы. Дарэчы, адказы, калі ў гэтым узнікае неабходнасць, падаюцца не пасля кожнага твора, а ў канцы пэўнага раздзела (у акразагадках, як вядома, адказ прачытваецца на першых літарах кожнага радка). А гэта таксама спрыяе таму, што маленькі чытач наўрад ці паспяшаецца шукаць гатовы адказ, а падумае, каб знайсці яго самастойна.

І яшчэ адна са звычайных загадак:

*Каля ціхае крыніцы*
*Збудаваны дом з іголак.*
*Можа, вам знаёмы ён?*
*Жыхароў у ім мільён.*
*Тут шчыруюць усе чыста —*
*Вось чаму навокал чыста.*

Як па-добраму, і як умела паэт заінтрыгоўвае! Асабліва такой гіпербалай: "жыхароў у ім мільён". Думай, гадай, дзе знаходзіцца падобны дом. Канечне ж, падказка ёсць: "каля ціхае крыніцы", але ж крыніц шмат... А разгадка не такая і складаная: гаворка пра мурашнік. А ведаючы яе, захочацца загадку перачытаць нанова, каб адчуць, як у творы ўсё дакладна, зладжана, прадумана, узважана.

Затое загадкі-рыфмаванкі працейшыя. Працейшыя, але не спрошчаныя, бо ў іх таксама закладзены важкі змест. Іншая справа, што У. Мацвеенка імкнецца гэтым разам быць больш даходлівым. Сам змест той ці іншай загадкі падаецца такім чынам, што атрымліваецца як бы... гульня. Дзіця, чытаючы твор, хутка і лёгка ўлоўлівае яго інтанацыю і само нібы становіцца сааўтарам, прамаўляючы:

*Вочкі —*
*Нібы вугалёчкі,*
*Рост —*
*З дзіцячы кулачок.*
*Хвост —*
*Віхлясты чарвячок.*
*Бегае, пужаецца,*
*У норачку хаваецца.*
*Прамарудзіць*
*Толькі крышку —*
*Кошка мігам*
*Зловіць м..... .*

І няма патрэбы шукаць адказ у канцы гэтага раздзела, хоць ён там ёсць. І так зразумела, што аўтар меў на ўвазе мышку.

Адметнасць твораў У. Мацвеенкі (у дадзеным выпадку — загадак) і ў тым, што аўтар умела спалучае традыцыйныя сюжэты, добра вядомыя дзецям, як па творах іншых аўтараў, так і па фальклорных, з узятымі з сённяшняга жыцця. А таму гэта і сучасныя загадкі, у якіх ажываюць многія сённяшнія рэаліі. Як у гэтай загадцы-задачцы: "Ранкам воўк У электрычку Падсадзіў Куму-лісічку. І адразу За ваўком Лось прасунуўся Цішком". А ўслед за ваўком, лісіцай, ласём паспяшаліся ў вагон і іншыя лясныя насельнікі: зай, янот, шэсць баброў. Заканамернае пытанне: "Колькі ўсіх Было звяроў?" І хто з хлопчыкаў і дзяўчынак звісоўжо азы арыфметыкі, зноў жа, не зазіраючы ў канец раздзела, лёгка знойдзе адказ. А не, дык пачне падлічваць, пакуль і не атрымаецца лічба адзінаццаць.

Пра кожны з відаў загадак, прапанаваных У. Мацвеенкам, можна гаварыць шмат. І абавязкова знаходзіць прыклады (і гэта не выклікае вялікай цяжкасці), якія сведчаць на карысць таго, што аўтар іх — чалавек надзвычай таленавіты. Але талент у яго такі, што паэтычнае майстэрства цесна спалучаецца з не менш важным майстэрствам, без якога і не можа быць сапраўднага дзіцячага пісьменніка, — майстэрствам псіхолага. Але псіхолага, які, у меру неабходнасці, карыстаючыся дыдактыкай, не ператвараецца ў маралізатара.

Аднак, паколькі ў рэцэнзіі не ахапіць

# Зямлі роднай краса і прывабнасць

Нядаўна мінскае прадпрыемства "Тэхнапрынт" выпусціла ў свет кнігу Алеся Карлюкевіча "Літаратурная карта Пухаўшчыны", у аснову якой пакладзены краязнаўчы нарыс. У кароткай анатацыі гаворыцца, што аўтар "робіць спробу правесці літаратурныя агледзіны Пухавіцкага краю", што "кніга адрасуецца настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, гісторыі, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны". Яно так і ёсць на самай справе. Кніга пра адзін з прыгожых куткоў беларускай зямлі, малую радзіму многіх беларускіх пісьменнікаў, безумоўна, будзе карыснай не толькі настаўнікам, але і вучням.

Пра Пухавіцкі край я чуў і трохі ведаў яшчэ ў гады свайго школьнага юнацтва, калі вывучаў творчасць Міхася Чарота, у прыватнасці, яго паэму "Босыя на вогнішчы", уключаную ў хрэстаматыю па беларускай літаратуры. У ёй была змешчана і біяграфія паэта, з якой мы ведалі, што ён нарадзіўся ў Рудзенску непадалёку ад Пухавіч. Але мяне больш за ўсё захапляла творчасць паэта. Я і сёння помню на памяць радкі з яго верша, прысвечанага Пухаўшчыне:

*І зноў я там,*
*дзе поле каласамі*
*Свайму паэту шле паклон.*

Я ўяўляў Пухаўшчыну такой жа прыгожай, прывабнай зямлёй, як і мая Хоцімшчына.

У 1935 годзе я на школьных вечарах па памяці чытаў усю, ад пачатку да канца, паэму М. Чарота "Босыя на вогнішчы". Яна пачыналася так:

*Вайна і пажар.*
*На вогнішчы людзі*
*Жывуць босымі.*
*Няўжо ж гэтак і будзе?*
*Свой уласны дар*
*У чужых просім мы.*
*Працуй на пана,*
*Працуй на падпанка —*
*Жыць не ахвота.*
*А тут з самага ранку*
*Усякі чорт лезе ў балота...*
*Ну і жыццё!*

Паэма выклікала ў мяне, вясковага юнака, шмат пытанняў аб нашым жыцці, жыцці нашых дзядоў і бацькоў. Але ўголас свае думкі выказаць не мог ніхто — ні мой дзед, ні яго ўнук. І ўсё ж ніхто з нас не думаў, што праз год ці два нашага знакамітага паэта назавуць "ворагам народа" і што ён будзе расстраляны. Цяперашнія маладыя людзі могуць нават не паверыць, што перад заканчэннем сямігодкі ў канцы 1936 года мяне хацелі выключыць з камсамола толькі за тое, што чытаў са сцэны паэму "ворага народа" Міхася Чарота.

Чаму я так падрабязна гавару пра М. Чарота? Таму, што пра яго больш чым пра каго з іншых пісьменнікаў з Пухаўшчыны гаворыць у сваёй кнізе А. Карлюкевіч. Шкада толькі, што ён мала цытуе саміх пісьменнікаў, якія нарадзіліся на гэтай зямлі і пісалі пра яе з вялікай любоўю і замілаваннем. Па творах аўтара можна пазнаваць яго малую радзіму, тую мясцовасць, дзе ён жыў і працаваў.

А. Карлюкевіч апавядае і пра тых пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў іншых раёнах, але нейкі час жылі, працавалі ці адпачывалі ў маляўнічых мясцінах па-над Свіслаччу на Пухаўшчыне. Найперш гэта, вядома ж, народны пясняр Беларусі Якуб Колас. А. Карлюкевіч прыводзіць некаторыя радкі з вершаў паэта, прысвечаных Пухаўшчыне, але, зноў жа, надзвычай мала. Бо Якуб Колас вельмі любіў і шанаваў гэты куток Беларусі, што магу засведчыць і я.

У канцы мая 1938 года я заканчваў Магілёўскі газетны тэхнікум, ці, як яго называлі тады, газетную партыйную школу. Напярэдадні выпуску нас, студэнтаў апошняга курса, прывезлі ў Мінск — на сустрэчу з калектывамі цэнтральных газет, літаратарамі. Наш выкладчык газетнай справы А. Цітоў патурбаваўся, каб наладзіць сустрэчу ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі з кім-небудзь з вядомых празаікаў ці паэтаў. Старшыня СП Міхась Клімковіч прыняў нас у сваім кабінеце. Нечакана ён запытаў у Цітова:

— А з Якубам Коласам вы б не хацелі сустрэцца?

— Ой, будзем толькі рады! — у адзін голас адказалі мы.

М. Клімковіч тут жа пазваніў на кватэру Якубу Коласу, выказаў яму нашу просьбу. І праз некалькі хвілін народны пясняр быў у Доме пісьменніка.

Канстанцін Міхайлавіч вёў з намі шчырую, сардэчную гутарку. Ён менш гаварыў пра свае творы, пра сваю творчую лабараторыю, а з нейкім асаблівым замілаваннем расказваў пра тое, як правёў бягучую вясну на сваёй дачы пад Пухавічамі, у вёсцы Балачанка, як хадзіў па лесе па-над Свіслаччу, лавіў рыбу ў ёй...

Мы прыслухоўваліся да кожнага слова, сказанага нашым любімым пісьменнікам. Нас захапляла тое, з якой любоўю ён гаварыў пра родную прыроду, пра краявіды той зямлі, дзе ён праводзіў свой адпачынак, працаваў за пісьмовым сталом, — пра лясы, пералескі, палі і лугі па-над ціхай, спакойнай Свіслаччу. Гаварыў, што ўстае рана, да ўсходу сонейка, ідзе да ракі ўмыцца сцюдзёнай вадзічкай, падыхаць цёплым, свежым паветрам...

Слухаючы цудоўнага майстра мастацкага слова, мы згадвалі яго апавяданні, аповесці, раман "На ростанях", паэму "Новая зямля", якую чыталі, ведалі не толькі школьнікі і студэнты, а, можна сказаць без перабольшвання, увесь беларускі народ. Перад намі паўставалі малюнкі роднай прыроды. Майстар пераносіў у свае творы прыгажосць і Прыпяці і Свіслачы, Піншчыны і Пухаўшчыны, бо і адна і другая мясцовасць блізкія, родныя яму, як і ўся Беларусь...

Пра Пухавіцкую зямлю не раз я чуў расказы сваіх сяброў-пісьменнікаў Захара Біралы, Міхася Скрыпкі, Макара Паслядовіча, Генадзя Кляўко і іншых, якія нарадзіліся, раслі тут ці жылі, працавалі ў Пухавіцкім раёне. Кожны з іх што-небудзь напісаў пра гэты край, яго асаблівасці.

У кнізе А. Карлюкевіча ёсць такі запіс: "...на пачатку трыццатых гадоў, праязджаючы праз Пухавічы, вядомыя расійскія пісьменнікі, аўтары "Залатога цяляці", "Дванаццаці крэслаў" Ілля Ільф і Яўгеній Пятроў заўважылі (а пасля і занатавалі гэта ў сваіх дарожных

неабдымнае, аналізуючы загадкі, скажу колькі слоў пра "Азбуку ў загадках". Ёсць у ёй і звычайныя загадкі, часам сустракаюцца і такія, што набліжаюцца да загадак-рыфмаванак, паколькі адказ рыфмуецца з адным з радкоў твора. Не забыўся У. Мацвеенка і пра такія "цяжкія" літары, як "ў", "Ы", "Ь", на якія таксама падаюцца загадкі. І гэтаксама займальныя, як і на іншыя літары.

Але, хоць кніга і называецца "Загадкі з хаткі Дзеда Уладкі", яна складаецца не толькі з гэтых загадак. "Хатка" дзеда Уладкі такая гасцінная, што "ўзяла" да сябе і шарады, анаграмы, метаграмы, лагагрыфы, амонімы, якія склалі другую частку зборніка. А яшчэ ёсць у кнізе трэцяя частка, якая складаецца са смяшынак, скорагаворак, лічылак і каламбураў. Атрымліваецца, што ў гэтых дзвюх частках змешчана яшчэ... 300 твораў. І зноў жа, як і ў выпадку з загадкамі, яны такія, што, каторы ні возьмеш, напісаны з добрым тактам, густам, а галоўнае нясуць у сабе важкі змест.

Можа ўзнікнуць пытанне: няўжо ў кніжцы У. Мацвеенкі ўсё, як кажуць, гладка? А я не збіраюся гэта сцвярджаць. Ёсць творы і слабейшыя. Аднак яны слабейшыя, калі мець на ўвазе тую вышыню, на якой паэт утрымлівае планку мастацкасці ў пераважнай большасці з іх. Не абышлося і без звычайнага недагляду ў такой загадцы:

*Яны прыходзяць тройчы ў год*
*Да школьнага двара,*
*Каб адпачыла ад турбот*
*Вучэбных дзетвара.*

Цяпер, як вядома, школьныя канікулы на працягу вучэбнага года прыходзяць не тройчы, як раней, а чатыры разы. Прынамсі, для малодшых школьнікаў, бо даецца адпачынак і восенню, а не толькі зімой, вясной і летам. А яшчэ, відаць, трэба было б даць тлумачэнні, што азначаюць тыя ж шарады, анаграмы, метаграмы і некаторыя іншыя творы. Тым больш, што пры першай публікацыі іх гэта рабілася і дзецям было лягчэй успрымаць тое, пра што расказвае паэт.

Ды не гэтыя прыватнасці вызначаюць твар новай кнігі У. Мацвеенкі. У цэлым яна той свет, які поўны дзівосаў. Дзівосаў, якіх так не стае ў нашым паўсядзённым жыцці тым сучасным дзецям, бацькі якіх хочуць, каб яны выхоўваліся на прынцыпах дабра, справядлівасці, любілі і ведалі родную мову, а не толькі захапляліся замежнымі сурагатамі ў розных іх праяўленнях. І застаецца сказаць дзякуй не толькі аўтару, а і выдавецтву "Юнацтва", якое кнізе "Загадкі з хаткі дзеда Уладкі" дало жыццё.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

нататках), што патрапілі ў "другую Адэсу". Быў такі факт. І пра яго трэба было напісаць больш падрабязна і дакладна, тым больш, што ёсць яшчэ людзі, якія былі сведкамі яго ў 1936 годзе. А справа ў тым, што на тэрыторыі Асобнай Заходняй ваеннай акругі праходзілі тым летам вялікія вайсковыя вучэнні. Пасля іх заканчэння маршал Клім Варашылаў з-пад Баранавіч з усёй сваёй світай прыязджаў у Пухавічы, дзе ў сталовай Дома творчасці Саюза пісьменнікаў Беларусі быў наладжаны для яго спецыяльны абед. Ён спазняўся, і дырэктар Дома творчасці М. Левін вырашыў, што маршал не прыедзе, і разам з усімі сваімі супрацоўнікамі пусціў, як гаворыцца, у расход маршальскі абед. Само сабою, калі К. Варашылаў усё ж з'явіўся ў Пухавічах, яго тут, вядома, накармілі і напаілі. А ў сшытку Я. Пятрова, як высветлілася потым, з'явіўся запіс: "Какой-то Левин съел обед Главнокомандующего". Магчыма, само па сабе ўсё гэта не заслугоўвае асаблівай увагі. Але цікава, што ў Пухавічах у свой час пабывалі вядомыя ўсёй краіне людзі, і мо ў кагосьці з іх ёсць выказванні, уражанні пра гэта знаходжанне на нашай зямлі. Прынамсі, Аркадзь Куляшоў, Пятро Глебка, Макар Паслядовіч і іншыя старэйшыя беларускія пісьменнікі пра ўпамянуты факт расказвалі.

Мінаецца час, праходзяць гады. Змяняецца і сама зямля. Але не знікае яе прыгажосць, краса і прывабнасць. Вельмі добра зрабіў А. Карлюкевіч, што напісаў і выдаў асобнай кніжкай свой краязнаўчы нарыс "Літаратурная карта Пухаўшчыны". Было б яшчэ лепш, каб у гэтай кнізе было больш выказванняў саміх пісьменнікаў, урыўкаў з іх твораў аб той зямлі, на якой яны гадаваліся, жылі і працавалі.

Хочацца пажадаць, каб ініцыятыву А. Карлюкевіча падтрымалі іншыя нашы пісьменнікі, каб стварылі літаратурныя карты сваіх раёнаў. Чаму б не намаляваць літаратурны партрэт самага ўсходняга кутка Беларусі, да якога аднесяцца Хоцімскі, Касцюковіцкі, Краснапольскі раёны? Гэта малая радзіма такіх выдатных нашых празаікаў і паэтаў, як Аркадзь Куляшоў, Аляксей Русецкі, Іван Чыгрынаў, Аляксей Пысін, Васіль Хомчанка, Леанід Левановіч і многіх іншых. Досыць падаць іх кароткія біяграфіі і падмацаваць іх цытатамі з вершаў, апавяданняў, аповесцей — ужо была б цікавая кніга ў дапамогу вучням, настаўнікам, усім чытачам.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

---

ВІНШУЕМ!

# Зінаідзе ДУДЗЮК — 50



***Зінаіда Дудзюк належыць да творцаў, якія ўпэўнена працуюць у розных жанрах. Найперш яна зарэкамендавала сябе як цікавы паэт, аб чым засведчылі кнігі "Праводзіны птушак", "Абрысы лета", "Так і не". Адметнасцю почырку, уменнем псіхалагічна глыбока раскрываць розныя жыццёвыя калізіі вызначаецца і З. Дудзюк-празаік. Прынамсі, гэта добра відаць па кнізе "Палоннікі жыцця". Але не толькі сённяшні дзень цікавіць Зінаіду Іосіфаўну, а і даўніна. У прыватнасці, у рамане "Архірэевы скарбы", рукапіс якога прапанаваны рэдакцыі часопіса "Полымя" і прыняты да друку, яна па-свойму асэнсоўвае тыя старонкі нацыянальнай мінуўшчыны, якія па-ранейшаму патрабуюць уважлівага стаўлення. Напісала З. Дудзюк і каля дзесятка п'ес, пераважная большасць з якіх адрасавана дзецям — "Сінязорка", "Дудка-самагудка", "Канікулы на астэроідзе", "Чароўны гадзіннік" і іншыя. А яшчэ неабыякавая яна да кіно — на конкурсе кінасцэнарыяў яе твор "На парозе раю" атрымаў дыплом.***

***Віншуем Зінаіду Іосіфаўну з поўднем веку! Зычым ёй новых жыццёвых і творчых поспехаў! А чытачам "ЛіМа" прапануем новыя вершы юбіляркі.***

Зінаіда ДУДЗЮК

## Прашу я паэтычнага прытулку...

### Вынік

*Я ставіла пастку на Жыву-Ваду.*
*Яна ж на шляху сваім смелым*
*Змывала самоту, змывала нуду,*
*Халодная — варам кіпела.*

*Я ставіла пастку на Жыжу-Агонь,*
*А ён, беззваротны і гонкі,*
*Не ашчаджаў ні людзей, ні багоў,*
*Гуляў сабе вольна старонкай.*

*Я ставіла пастку на Вецер-Буран,*
*А ён, і бяздумны і дзікі,*
*Ведаць не мог, што ёсць час і пара*
*Для справаў малых і вялікіх.*

*Вучылася я і ў агня, і ў вады,*
*І ў буйнага ветру зацята*
*Гарэць, і ляцець, і цячы праз гады*
*Туды, дзе гамонка і свята.*

*Змывала вада добрых продкаў сляды,*
*Агонь спапяляў без патолі*
*І памяць, і мудрасць, і пострах бяды,*
*І заклік да годнае долі.*

*Калі ж я зірнула раптоўна назад —*
*У жудасці сэрца знямела:*
*Стаяла Матуля-Радзіма ў слязах,*
*І попелам поле бялела...*

•

*Сэрца грукала ў звон небакраю,*
*Выкрасала заранак агні,*
*Я гукала радкамі: "Кахаю!.."*
*Мне ў адказ — немата цішыні...*
*І губляўся ў прасторы мой голас,*
*Гінуў у непрытульлі жытла,*
*Не спявала душа мая болей,*
*У жалобе ціхмяна жыла.*

*Я з дамоўкі імкнула ў дарогу —*
*Забываць, забіваць, што было.*
*І абтрэсла вярыгі былога,*
*І адчула свабоды святло.*
*Зноў адкрыты мне звон небакраю,*
*Расчыняю сусвет, як турму.*
*Прыляцела з былога: "Кахаю!.."*
*Адказала маўчаннем яму...*

•

*Што шапоча ноч старою зводняй,*
*Лепш не слухаць і не ўспамінаць.*
*Свеціць поўня цьмянаю паходняй*
*Нам усім. Сама — заўжды адна...*
*Я варункі лёсу прымяраю,*
*Бездарожжа тэксту і палёў...*
*Хоць жыву яшчэ, ды паміраю*
*Кожнаю хвілінкаю сваёй....*

•

*Баравіны і паляны —*
*Малады зялёны свет.*
*Я з'яўлюся нечакана*
*Там, дзе лось пакінуў след.*
*Па імхах ступаю ціха,*
*Лесу гул душой лаўлю.*
*Не раўнуй мяне, ласіха,*
*Што лася твайго люблю.*
*Стрэну вас ля вадапою —*
*Гэта доля нас звяла.*
*За далёкай даўніною*
*Я сястрою вам была...*

•

*Хто вычарпаў тугу да дна,*
*Хто выпіў боль дарэшты,*
*Не паліць свечкі па начах*
*І не складае вершы.*
*Яму былога не шкада,*
*Як выпітага кухля...*
*Ды нешта шчасця не відаць*
*У позірку патухлым...*

•

*Ходзіш сумны і гарушчы —*
*Шаргаціць лістоты медзь.*
*Я — ад лесу, ты — ад пушчы.*
*Як цябе не зразумець.*
*Напляткарылі сарокі:*
*Паасобку нам калець,*
*Мой маўклівы, сінявокі.*
*Я — па дровы, ты — у лес.*
*Пагаворым хоць вачамі,*
*Калі словаў не стае,*
*Як салодкімі начамі*
*Шчодра дні дзяліць свае...*

•

*Ад прозы думак, ад пустых размоў*
*Хачу схавацца ў першароднасць гуку.*
*За гэтаю бясконцаю зімой*
*Прашу я паэтычнага прытулку.*
*Няхай мяне захопіць прыгажосць,*
*Няхай палоніць светлае натхненне,*
*Каб апынуцца ў будняў за мяжой,*
*Дзе паўжыцця — шчаслівае імгненне.*

### Адчуванне

*Дзень зламаўся сухою галінкай,*
*Разляцеўся бясплодным насеннем,*
*Неба шэрае — павуцінка,*
*Дзе таемныя дрэмлюць памкненні,*
*Што выпешчваюць думкі і словы*
*І ў нябачныя ловяць цянёты.*
*Скрозь аковы, аковы, аковы...*
*Крыўда... Праўда... Пагарда...*
*Дотык...*

### Шампанскае з лілеі

*На чатырох вятрах даўно калею,*
*Агонь вачэй у мораку ачах.*
*Наліце мне шампанскага ў лілею,*
*Я вып'ю за наступны лепшы час.*

*Там для мяне зашмат неспадзяванак,*
*І чорнага, і светлага спаўна.*
*Ад вечара мудрэйшы будзе ранак,*
*Пакуль жыццё не выпіта да дна.*

*Мой позірк задуменны пасвятлее*
*І вернецца з мінулага сюды.*
*Наліце мне шампанскага ў лілею,*
*Я вып'ю за наступныя гады.*

*Да іх спяшаю з добраю надзеяй.*
*Што сею сёння, заўтра ці сажну?*
*А свет ненатуральна маладзее*
*У сораканевыказную вясну.*

*Змяруся, як апошні дзень датлее*
*Ад старасці, ці стомы, ці нуды.*
*Наліце мне шампанскага ў лілею,*
*Я вып'ю за наступныя гады.*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

Мікола КУСЯНКОЎ

# ВІЎСЯ ХМЕЛЬ...

## СТАРОНКІ З РАМАНА



*Апошнія дзесяць год працую над трылогіяй, два рамана якой, "Явар з калінаю" і "Арляк і зязюля", выйшлі асобнымі кнігамі. Прымаю як належнае, што на з'яўленне другога рамана, выдадзенага ў 1998 годзе, крытыка не надта адгукнулася. Сёння больш актуальны "кішэнны" жанр. Не маю нічога супраць мініяцюры, пра якую на апошнім пісьменніцкім з'ездзе гаварылася як пра жанр, якім абумоўлены поспех цяперашняй нашай прозы. Напэўна, так яно і ёсць. Мяне, аднак, цешыць тое, што шмат ад каго з пісьменнікаў і чытачоў я пачуў добрыя словы пра свае два раманы, і гэта прыдае мне сіл у працы над заключнай кнігай трылогіі. "Віўся хмель..." — такая пакуль што назва апошняга рамана, старонкі з якога хацеў бы прапанаваць увазе чытачоў "ЛіМа". Апавядае галоўны герой рамана Іван Гаркуша.*

**Аўтар**

для ўсяго чалавецтва зрабіў такое важнае адкрыццё: хмель у лесе віецца справа налева. Але, даруйце, гэтае ваша адкрыццё яшчэ трэба было б праверыць". А я яму кажу: "Будзь спакойны, Алег Паўлавіч, — праверана".

Яму я не стаў нічога расказваць, а ты паслухай. Аднаго разу жонка мне кажа: "Дагледзеў бы фасолю, паўтыкаў бы пруткі, каб было ёй куды віцца". Заўсёды яна сеяла звычайную фасолю, а гэта нехта даў ёй на развод той, што віецца. Ну, паўтыкаў я пруткі, а фасоля з паўметра ўжо сцелецца па зямлі, дык я падымаю каліва і абкручваю ім пруток. Паабвіваў, а потым, можа, праз тыдзень зірнуў і вачам сваім не паверыў: адна і тая ж фасоля, ды на адных прутках яна павілася ўгору, а на іншых тапырыцца, курчыцца, нібыта ў пакутах, — не віецца, а развіваецца... І раптам — вунь яно што!.. Угору яна павілася на тых прутках, дзе я абкруціў яе злева направа, а дзе наадварот — там яна курчыцца, пратэстуе!.. Гэта мяне страшэнна здзівіла, бо, здаецца, ну якая ёй розніца, як віцца, — абы ўгору. Але ж не, ёй не ўсё роўна!.. І вось тарахчу я потым на мапедзе па лесе — і назаўтра, і праз тыдзень, а яно не пакідае мяне, маё здзіўленне. А тады спускаюся я да моста — што пад Высокай Грывою, а там паўз грэблю алёс, ну, і канечне ж, хмель. Вось тут, браце, мне і зарупіла: няўжо, думаю, і ён віецца гэтак жа, як фасоля? Нешта дзіцячае разабрала мяне, а можа, і не дзіцячае, бо цікава ж!.. Лезу па крапіве ў алешнік, вось ён хмель. І што я раптам бачу: і адну, і другую алешыну ён абвівае не злева направа, а наадварот — справа налева! Ну, тады цікавасць разабрала мяне яшчэ больш. І што я зрабіў. Угледзеў малы парастак, а ў кішэні быў матузок, дык я прывязаў яго за верхавінку і вакол алешыны абкруціў хмель так, каб ён павіўся не ў свой бок. А каб, як фасоля, не закапрызіў і не стаў раскручвацца, тым жа матузком прывязаў верхавінку да алешыны. І што ты думаеш. Прыязджаю праз тыдзень, вось тая алешына і той хмель — дулю ён мне паказаў: выгнуў верхавінку ўлева і абвіў алешыну так, як абвіваў спрадвеку.

Вось такі я правёў дослед. Таму цяпер я і сказаў ляснічаму: "Усё праверана". А ён тады кажа: "Ну, так, што ж тут дзіўнага. Генетыка. Такая ў іхніх генах праграма закладзена, каб хмель у адзін бок віўся, а фасоля ў другі". А я ўспомніў, як некалі ў навуковым інстытуце, у Гомелі, была ў мяне вучоная гутарка з дырэктарам — пра Мендэля, пра Моргана, колісь такія манахі былі — гены нейкія адкрылі, але потым Лысенка разграміў іх тэорыю, дык я і кажу ляснічаму: "Лухта — вашая генетыка. Трафім Дзянісавіч развеяў гэтую лжэнавуку ў пух і прах, бо ён на практыцы даказаў, што ўсё залежыць не ад генаў, а ад асяроддзя". Палез у ваду, не разведаўшы броду. Лесам галаву затлуміш, дык ні па радыё не пачуў, ні ў газеце не прачытаў, аказваецца, Лысенку самога даўно ўжо разграмілі — верх узялі манахі. Таму ляснічы і пазірае на мяне, як на першабытнага чалавека. Але хай бы ён толькі цешыўся сваёй вучонай перавагаю, а то ж праўду казала жонка: пачнеш дражніць яго, які ты разумны ў сваім лесе, дык ён прыпомніць табе, як і дачка твая перад ім нос задрала... Так, адыграўся ляснічы — амаль праз год. Зласліва адыграўся, і хай бы на мне ці на дачцэ, а то ж на маім унуку — на Валіку.

Гуляў перад арміяй мой унук, ох, і гуляў! Усіх дзевак і ў Грабянцах, і ў Доньках перабраў, усіх, акрамя адной, і была яна падчарка майго ляснічага. Недзе яна вучылася — у Гомелі ці ў Мінску, а ў нас пайшла ў дэкрэт бухгалтарка, таму на канікулы ляснічы і ўзяў падчарку, каб сядзела ў канторы ды ляскала на лічыльніках, — бухгалтэрыя ў лясніцтве нехітрая.

Але галоўнае не гэта. А тое, што была гэтая дзеўка прыгожая, і, мабыць, занадта. У жаночай прыгажосці я трохі разбіраюся — ты бачыў маю жонку, але ж гэта такая прыгажосць, што, які б ты сам ні быў нягеглы, яна, хоць на адлегласці, ды прызнае цябе за мужчыну, а то і падпусціць зусім блізка. А прыгожая падчарка не так вабіла да сябе, як адваджвала — абдавала цябе ледзяным павевам. Прыязджала яна ў кантору з айчымам у белым гарнітурыку, адно з пляча звісала на тонкім раменьчыку чорная бліскучая сумачка. Спаднічка — вышэй каленяў, і, даўганогая ды яшчэ і на высокіх абцасіках, на ганак падчарка ўзыходзіла стройная і, як струна, напятая. Баюся я такіх надта строгіх, але гаворка не пра мяне, а пра ўнука. Раней ён, бывала, як ускочыў на матацыкл, так і панёсся ў Грабянцы ці ў Донькі, а як стала прыязджаць гэтая каралева, ён і раз, і другі крутнецца з усяго разгону каля канторы — геройства сваё паказвае, у акне ж ані знаку яе ўвагі. Тады ён газане на ўсю моц і паімчыцца да іншых дзевак. Такая была падчарка — хоць бы раз падышла да акна, ведала ж, не сёння-заўтра прышлюць хлопцу з ваенкамата позву.

Пра гэтую белую дзеўку я табе яшчэ тое-сёе раскажу іншым разам, бо ты ж не забывай, цяпер я расказваю табе толькі пра тое, як ляснічы адпомсціў мне за маю непавагу да яго вялікай вучонасці. Але, канечне, і дзеўка тут не збоку прыпёку. Як ні круціўся каля канторы ўнук, яна так і не зірнула з акна на героя. І тады я не разумею, чаму яна прыйшла ўсё-ткі да яго на праводзіны? Разам вучыліся ў школе? Хай бы хоць адна прыйшла, а то ж з нейкім хлюстам. Пасядзела за сталом, а як маладыя ўключылі "маг" — каб патаўчыся пад музыку, яна разам з усімі пакруціла збольшага клубамі і знікла. Вельмі было падобна на тое, што падражніла ўнука, і быў ён на сваіх праводзінах надта сумны. З Гомеля, каб правесці ў армію сына, прыехала ягоная маці, мая дачка, дык яны разам і на аўтобус селі — паехалі ў ваенкамат. Гэта было ў аўторак. А ў чацвер... Жонка нямоглая, дык раніцай падаю карову, іду з даёнкаю ў хату, і, раптам, ледзь не выламаўшы брамку, унук мой урываецца ў двор — быццам нехта за ім гнаўся. Іншы раз не набраў ваенкамат каманды або не з'явіўся "купец", дык іх і адпусцяць на дзень-другі дадому — так я сам сабе падумаў. Похапкам паснедаў унук, пасядзеў у спальні каля бабулі — паспачуваў хворай, і зноў толькі мы яго і бачылі: ускочыў на матацыкл і панёсся ў Грабянцы. Ну, а мне трэба ў лес. І вось вывеў я за брамку мапед, і раптам неяк шэра зрабілася ў мяне ўвачу, ажно трохі пахітнуўся. Ухапіўся за штыкеціну — стаю і быццам лаўлю ў самім сабе нядобрую здагадку.

Нехта выйшаў з канторы і паціху рушыў у мой бок. Лёшка Гамон, бо ягоны хрыплы голас: "Што, хочаш мяне пабіць? Штыкецінай? Дык жа даўно разышліся нашы сцежкі-дарожкі, і не чапаю я даўно ні цябе, ні тваёй жонкі. Як яна там са сваёй болькаю?.. А ўнук?.. Гэта ж калі ты яго правёў — пазаўчора? Надта ж хутка ён выканаў свой свяшчэнны абавязак... Моля на яго няма — чыкнуў бы, як таму кабанчыку, а то, бач, зноў на шалы панёсся... А ты што — можа, сербануў зранку?.. За плот трымаешся... Цябе ляснічы заве — пагаварыць хоча..."

Увайшоў у кантору — што гэта? Белай бухгалтаркі не было за яе сталом, дык дзе яна, чаму яе не прывёз айчым?.. Я не здагадваўся яшчэ, якая ў ляснічага будзе са мною гаворка... Адчыніў дзверы ў кабінет — ляснічы сядзеў за сталом, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Нічога добрага ад свайго начальніка я не чакаў, але ніколі ягоны позірк не быў такім непрыязным і ніколі ў ягоным голасе я не чуў такой пагрозы. "Сядайце, — сказаў ляснічы. — Тут у мяне толькі што быў гэты... як яго... Лёшка Гамон. Ад яго я даведаўся шмат цікавага — пра вас, Іван Адамавіч. Гэта праўда, што колісь, яшчэ як толькі вы ажаніліся, ваша жонка падбіла гэтага Лёшку на ўцёкі — раман у іх быў нейкі?" — "Нягоднік ён, ваш Лёшка, — сказаў я. — Як вам толькі не сорамна слухаць і казаць мне гэта. Мая жонка — святая, дай Бог вам такой". — "Добра, — сказаў ляснічы. — Дапусцім, усё, што паведаміў ён мне пра вашу жонку, — паклёп. Але ж далей вы мне ўжо даруйце, Іван Адамавіч, пра вашу дачку я ўсё ведаю сам... Супакойцеся, у нас мужчынская гаворка, усё застанецца між намі... А да чаго я хілю — вы яшчэ не здагадваецеся?.. Аднойчы вы мне сказалі — няма ніякіх генаў. Калі вы і цяпер будзеце настойваць на гэтым, дык я вам, як вы самі кажаце, на практыцы дакажу, што гены ўсё-такі ёсць. Вы — хадзячая народная мудрасць, і гэта быццам вамі ўпершыню сказана: "Яблыка ад яблыні далёка не адкоціцца". Дык ён і не адкаціўся. Я пра вашу дачушку і пра вашага ўнука, Іван Адамавіч. Колісь у гэтым лесе пабіла ўсе распусныя рэкорды ваша дачка, а цяпер і ў яе выпладку разбушавалася тая ж генетычная хэнць, тая ж распуста. Таму хачу вас папярэдзіць: адно, калі ён тут перад вокнамі дэманстраваў на матацыкле цыркавыя трукі, а другое — хай толькі пасмее пальцам яе крануць! — Ляснічы паказаў вачамі на дзверы, за якімі павінна была б сядзець яго падчарка. Але яе там не было, і я ўжо дагадваўся, дзе яна і з кім. А ляснічы працягваў: — Так, яна не родная мне дачка, але я ўзяў на сябе адказнасць за яе лёс, за яе будучыню, а ў гэты момант, калі мы з вамі так міла гутарым, я непакоюся найперш за яе дзявочы гонар... На колькі дзён яго адпусцілі?.. Зрэшты, зараз мы даведаемся..." Я не зразумеў, чаму ляснічы нецярпліва зірнуў на тэлефонны апарат, але ўжо ведаў: ніхто ўнука не адпускаў, ён сам уцёк. І ў думках я дакараў дачку: яна ж паехала з ім у ваенкамат, чаму ж яна не наказала яму, каб не рабіў глупства. Няўжо яна не бачыла на праводзінах, як гэта белая здань паявілася і знікла, было ж відаць, што хлопец месца сабе не знаходзіў!..

Зазваніў тэлефон, і ляснічы паднёс да вуха трубку. Я ўжо неяк табе казаў: слых у мяне сабачы, і я пазнаў, хто звоніць, — участковы Шульга. Ляснічы слухаў і па-ранейшаму непрыязна, але ўсё пільней і падазроней пазіраў на мяне. Твар яго зрабіўся нервовым — патузваліся шчокі і вусны, ён не мог даць веры таму, у чым я ўжо не сумняваўся: так, Валік уцёк, а недзе ў Грабянцах падхапіў-такі белую падчарку і папёр на матацыкле ў лес. Апошняе, што пачулася з трубкі, я павінен чакаць Шульгу ў канторы.

"Шакал! — вылаяўся ляснічы. — Хай ён толькі яе... Я тады пакажу табе, у які бок хмель віецца!" Гэтага я ўжо не стрываў, падхапіўся з крэсла і гнеўна зірнуў яму ў вочы: "Годзе! З такім, як мой унук, яна толькі радая будзе палюбіцца!" — І раптам ува мне прамільгнула здагадка: гэта не злосць так закіпела ў ляснічага, а... ці не зараўнаваў ён?.. Дык я і спытаў: "Ці не для сябе ты беражэш сваю падчарку?" — "Вон адсюль!" — вызверыўся ляснічы.

Не вельмі ён мяне напалохаў, але хай ён акалее ў сваім кабінеце. Ляпнуў дзвярамі — дзейнічаць, ратаваць унука! Бо раз ужо ведае Шульга, значыць, пазванілі з ваенкамата, і будуць паляваць — як летась у Доньках, з аўчаркаю лавілі ў лесе такога ж уцекача. Паведаміць дачцэ, хай што хоча робіць, а калі ён яе сын — хай ратуе... На стале ў бухгалтаркі тэлефон, набіраю нумар. Доўгія гудкі — дачкі няма дома. Яшчэ адзін тэлефон у яе на рабоце, але туды званіць ёй можна толькі па вельмі пільнай патрэбе. Больш пільнай не бывае. Адказвае нейкае дзяўчо: "Анастасію Іванаўну? Даруйце, у яе лекцыя. Праз дзесяць хвілін перапынак — тады і пазваніце".

Дзесяць хвілін... Акурат, як на матацыкле з Грабянцоў прыджгаць. Так і ёсць... Адчыняюцца дзверы — і на парозе ўчастковы Шульга. "Ага, стары карасд, папаўся! Шагам марш за мной!"

Чаму — "за мной"? Калі я сам быў ляснічы, я ўступаў яму кабінет, і ён мог паківаць у ім пальцам любому, хто яму насаліў, а тут я выходжу ўслед за ім на вуліцу, і ён, не азіраючыся, вядзе мяне ці не ў мой жа двор. Нічога добрага ад Шульгі я не чакаю: як і ляснічы, ён будзе зласліва мне помсціць, бо ёсць за што.

Колісь два шафёры і трэці ён, участковы, забілі ў лесе лася, а я і вывеў браканьераў на чыстую ваду. У раёне ласіную справу замялі, шафёраў нават не аштрафавалі, а Шульга пацярпеў. З участковых яго не выгналі, бо, як служыў у войску, пабываў на Кубе, а там на бераг палезлі амерыканцы, і Шульга разам з кубінцамі скідаў іх у мора, яму асколкам нават адсекла на левай руцэ два пальцы, мезены і безымянны. Дык за ранейшыя заслугі ўчастковым Шульгу пакінулі, але далей ходу яму ўжо не было — не перавялі ў раён большым начальнікам. Так я і сапсаваў чалавеку жыццё, і таму цяпер я не мог чакаць ад яго літасці. Ды нават калі б і не той злашчасны лось, на якую Шульгову літасць я мог спадзявацца, калі ягонага сына прывезлі ў цынкавай труне, а мой унук цяпер хто ж быў, як не дэзерцір?.. Пасля гібелі сына Шульга стаў сам на сябе не падобны. Хай ён мне дарує за грубае слова — мардатым Шульга быў і раней, але то быў свежы, поўны твар, цяпер жа ён зрабіўся зямлістым, рыхлым. І пастава раней у Шульгі была — пра такую кажуць "моцна збітая", з яе так і перла мужчынская дужасць, а калі цяпер у яго сям'і няшчасце, дык ішоў я ўслед за Шульгой, і мне горка было бачыць, як абвіслі ягоныя плечы і ўся яго нязграбная постаць быццам расплылася ўшыркі. І хада ў Шульгі была запаволеная, цяжкая. Так ён ішоў і нешта сам сабе мармытаў. Я прыслухаўся і не пачуў нічога дзіўнага — Шульга хваліў майго ляснічага: "Ну і малайчына! У ваенкамат дзынкнуў, а ваенком — у часць, а там пераклічку зрабілі — адзін уцёк, салага! Праз тыдзень, можа, і спахапіліся б, каб не ляснічы. Вось што значыць народная інтэлігенцыя, з ёю і нашаму брату лёгка працаваць. Калі б не настаўнікі ды не розныя аграномы або такія ляснічы, загінула б дзяржава, бо толькі яны і стаяць на варце. Рабацягам — тым абы выпіць ды закусіць..."

Так, Шульга вёў мяне ў мой двор, бо ён ужо адчыняе брамку. У двары яго найперш зацікавіла павець. Справа пад павеццю ў мяне варштат — іншы раз габлюю, злева — сходы ў склеп. Дол пад павеццю — як ток, на якім малоцяць, і Шульга з хвіліну пільна ўглядаўся ў тое месца, дзе быццам угадваўся нейкі след ад матацыкла. З заклапочаным выглядам спусціўся па сходах, прыадчыніў незамкнутыя дзверы, але ў цёмны склеп не зазірнуў, бо не паймеў ахвоты падгінацца. Узышоў па прыступках, непрыязна зірнуў на мяне і з'едліва паабяцаў: "Будзь спакойны — знойдзем". Адчыняе хлеў і раптам пытае: "Ты што — супраць ляснічага?" — "Ды не супраць, — адказваю. — Проста зайшла гаворка... пра гены..." — "Пра што? — Шульга недаўменна зірнуў на мяне, і я мусіў патлумачыць: "Хмель абвівае апору справа налева, а фасоля наадварот — злева направа, ну, я і сказаў... А ён тлумачыць — такая ў іх генетыка. А я ўзяў ды і пажартаваў — няма ніякай генетыкі. Вось ён і помсціць". — "Няма ніякай генетыкі? — здзівіўся Шульга. — Па мне, дык адзін хрэн, як віецца твой хмель, а табе трэба ўсё вынюхаць, толькі б паказаць сваё я. Нішто сабе жарцікі — няма ніякай генетыкі!.. Пра яе малое дзіця ведае. І сам ты добра ведаеш. Але такое ў цябе нутро, сверб такі ў цябе — каб усім ісці насуперак. Колісь прылятаў касіць на балоце першы сакратар ЦК, дык ты і яго сустрэў у штыкі, а што ўжо казаць пра ляснічага..." У хляве — лаз на вышкі, Шульга ўзбіраецца па лесвіцы,

*(Працяг на стар. 12)*

А побач з усім аптымістычным была і другая частка майго жыцця. Гэта тое, што гаварылі пра польскіх афіцэраў, пра ворагаў народа, хаця нават дзяды на вёсцы распавядалі іначай. Дый і маці толькі тайком адкрыла нам, што бацька адсядзеў шэсць гадоў у турме за тое, што не вывез у тэрмін тры кубаметры лесу на нарыхтоўках. А тое, што няма месца пахавання бацькі, стварыла мне вялікія праблемы, калі я ўпершыню збіраўся ехаць за мяжу ў 1965 г.

**— Але вы працавалі як станковы і кніжны графік. А гэта, як дазваляла ў тыя гады разнастайнасць тэматыкі, асабліва нацыянальнай, у ілюстраванні кніг, так і дадавала афіцыйных абмежаванняў у вобразах, коле тэм. Зрэшты, партызана можна было намаляваць толькі партызанам...**

— Мне пашчасціла афармляць толькі лірыку, там было свабодней, чым у прозе. Яшчэ ў студэнцкія гады пацягнулася душа да ілюстравання. Але ў той час як было — раптам захацелі выпусціць кніжку Ларысы Геніюш. Многія мастакі адмаўляліся, ведаючы, хто яна такая, што тут не будзе вялікага ганарару, вялікай пашаны ад улады. Таму кніжка дасталася мне, зусім маладому мастаку, "практыкаванца". А потым была Зоська Верас, Грахоўскі, які толькі вярнуўся з высылкі. А пасля Караткевіч. Мяне фарміравала менавіта такая паэзія, і я пачынаў глядзець на свет па-іншаму. Я сталеў пад уплывам пачуццяў, якія існавалі паралельна з савецкай ідэалогіяй. Адны толькі стасункі з Караткевічам можна назваць шчасцем. Канешне, давялося ілюстраваць іншых, сярод вершаў якіх было многа і прасавецкага, даводзілася там-сям скарыстоўваць зорачкі і падобную сімволіку. Але заўжды намагаўся вышукваць у паэтаў нешта першароднае. З паэзіі я вышаў на дзіцячую кнігу, якая зноў-такі мае моцны народны падтэкст.

Гэта быў пачатак маёй творчасці. А я шукаў адметную, сваю тэму, у якой мог бы выказацца поўнасцю. Натхняльнікам маёй першай, відаць, лепшай вялікай серыі быў Караткевіч. Я ілюстраваў яго першую кнігу "Іліяду", па яго просьбе рабіў экслібрысы з выяваю Каліноўскага спецыяльна для "мураўёўскіх" выданняў. Караткевічу трэба аддаць належнае, хоць е зусім успрыняў маё бачанне паэзіі, магчыма, яму хацелася для сябе лепшую кніжку, але ён дараваў, падтрымаў мае памкненні. Але так ужо здарылася, што ніхто яго паэзію пры жыцці больш і не праілюстраваў, толькі Пятро Драчоў аформіў раман "Каласы пад сярпом тваім". Менавіта Караткевіч скіраваў мяне да помнікаў даўніны. Яго жонка працавала ў Акадэміі навук і якраз займалася зборам помнікаў дойлідства Беларусі. І калі я раптам пабачыў здымкі, гэта стала эмацыянальным шокам. Мы прызвычаіліся, што ў Мінску нічога няма і ў маім Слуцку ўсё вынішчана. А аказалася, варта праехаць колькі кіламетраў, каб пабачыць іншую Беларусь...

**— З гэтага пачалася ваша вялікая праца над помнікамі дойлідства, але ў тыя ж гады, ведаю, пачаліся і вашы вялікія праблемы, і таксама з-за нацыянальных пытанняў...**

— Так, была гісторыя ў самым пачатку васьмідзесятых гадоў, калі ў прэзідыум Саюза мастакоў былі абраны суцэльна беларусы. На чале саюза стаяў Грамыка, першым сакратаром стаў Шчамялёў, членамі прэзідыума Шаранговіч, Вашчанка, Свентахоўскі, Агуновіч; Вярсоцкі — старшынёй Мастацкага фонду, а я ўзначальваў секцыю графікі. І мы падрыхтавалі выставы па нацыянальнай тэматыцы, якіх зусім да гэтага не было. А як было: вызначалася кіраўніцтвам тэма, напрыклад, "Мы будуем камунізм", выдзяляліся грошы. І мы ўсе дружна "будавалі камунізм". І калі раптам я прынёс на такую выставу выявы Мірскага замка, Ішкальдскай царквы, касцёла ў Маламажэйкаве, то паўстала пытанне, дзе ж тут камунізм? Але выкінуць з экспазіцыі работы не маглі, бо я даваў цытату з закона аб ахове помнікаў.

Першую самастойную нацыянальную выставу мастакі прысвяцілі дню нараджэння беларускай паэтэсы Цёткі. Грошай ніхто не выдзяляў, але ў экспазіцыю прынеслі больш за сто твораў. Пачаўся неймаверны перапалох у ЦК і Камітэце дзяржбяспекі, чаму людзі "без капейкі" робяць выставу задарма, чаму выставіліся толькі беларусы і пару яўрэяў, адзін з якіх, дарэчы, Азгур. Выставу хуценька расфарміравалі па музеях, ваенных часцях, не даўшы правезці па іншых гарадах, як задумвалася. Следам мы зрабілі другую выставу, прысвечаную 500-годдзю з дня нараджэння Гусоўскага, і таксама без грошай. Ініцыятарам выступала ўвесь час секцыя графікі. А ўжо ў наступнай выставе, прысвечанай Багдановічу, улады паступілі разумней, далі вялікую залу, дагаворы, і нашы работы проста згубіліся сярод усялякіх іншых з прасавецкім "разуменнем ролі паэта ў фарміраванні культурнага асяроддзя нашага народа". Атрымалася звычайная палітызаваная выстава. Пасля афіцыйна адбыліся выставы, прымеркаваныя да юбілеяў Купалы і Коласа, дзе яны былі прадстаўлены героямі савецкага часу.

А пасля пачалася "рэпрэсіі". Былі людзі, якія шукалі кампрамат, выступалі на партсходах, пісалі даносы. І яны абвінавацілі нас у нацыяналізме. Знайшлі і фармулёўку — няправільнае разуменне шляхоў развіцця... Усё скончылася поўным разгромам Саюза мастакоў. На бюро гаркама партыі мяне знялі з пасады галоўнага мастакаМастацкага фонду і старшыні секцыі, Свентахоўскага — з пасады адказнага сакратара, Шчамялёва — з пасады першага сакратара. І Саюз мастакоў рэзка павярнуўся да савецкай ідэалогіі. У тыя часы падтрымаў мяне моцна Караткевіч. Ён ужо перажыў забарону "Дзікага палявання караля Стаха", праблемы з выданнем "Зямлі пад белымі крыламі", пад пытаннем заставаўся яго твор жыцця "Каласы пад сярпом тваім". На сваё пяцідзесяцігоддзе ён запрасіў афіцыйна ад саюза толькі мяне.

**— Але тым не менш вам удалося давесці да канца сваю серыю?**

— Так, хоць на дзесяць год мяне проста "вырубілі" з жыцця. Я быў у роспачы, дзеці малыя. Пашчасціла патрапіць у майстэрні Малаткова на Мінскім мастацка-прамысловым камбінаце і там выразаць на трыццаці камянях — даўно задуманую серыю "Помнікі дойлідства Беларусі". Пашчасціла заключыць з Міністэрствам культуры доўгатэрміновую дамову на гэту серыю, такая практыка толькі ўвайшла ў моду, што дазволіла мне пратрымацца тыя дзесяць год. На кожную выставу я рабіў па тры работы. Працягваў ілюстраваць кніжкі. І тут я павінен сказаць, што мяне не хвалявала знешняя эпатажнасць, навізна вырашэння. Я адкрыў сваю моцную тэму для цэлай серыі, глыбінна ўцяміўся ў справу. Я імкнуўся выказвацца выразна, кранальна. І мне думаецца, што я здолеў праспяваць як бы самы галоўны спеў свайго жыцця.

**— Уладзімір, вы самі падарожнічалі па Беларусі ў пошуках "герояў" гэтай серыі?**

— Мне дапамагло магутнае энцыклапедычнае рэчышча. Я вывучаў старыя выданні, завітваў, спачатку афіцыйна ў камандзіроўках, а пасля проста як сябра Саюза мастакоў у вандроўках у розныя мясціны. Маляваў у асноўным знявечаныя часам і саветамі помнікі. А цяпер я хачу працягнуць серыю зруйнаваных помнікаў пад назваю "Пакутніцы духоўнага Чарнобыля".

**— Уладзімір, які лёс беларускай азбукі, якая, ведаю, дасюль не скончаная і тры першыя літары з якой друкаваліся толькі на вокладцы трохтомнага выдання руска-беларускага слоўніка?**

— Калі мы толькі-толькі ўсе загаварылі на роднай мове, асабліва Акадэмія мастацтваў, я пачаў працаваць над серыяй "Мова наша родная". На кожную літару я ўкладаў помнікі дойлідства, птушку, жывёлу, расліну, выраб народнага мастацтва, аб'ядноўваючы гэта ў кампазіцыю. Але так здарылася, што прыйшла перабудова, грымнулі новыя кошты, патрабаванні і праца спынілася. Я закончыў



толькі сёмую літару. І гэта — тая рана, якая дасюль баліць. Я спрабаваў выйсці на фонды, атрымаць гранты, але мяне не падтрымалі. І я ўжо не ведаю, ці хопіць у мяне сіл на такую складаную і вялікую работу надалей.

**— Сёння зноў палітыка ўрываецца ў наша жыццё і творчасць. І вы зноў мусіце вяртацца да стану свайго мастацтва, які стаўся актуальным яшчэ ў гады вашай маладосці?**

— На жаль, нават роспачна робіцца і апускаюцца рукі, калі задумваешся пра тое, што адбываецца ў сённяшні момант. Многія раптам пабачылі свае творы ў раздзеле таталітарнага мастацтва. Але ў гэты раздзел гісторыі іх ніхто пад прымусам не заганяў, толькі грошы і слава. Так і існуюць яны з пачуццём няўдала пражытага жыцця. І ў мяне ёсць адзін такі твор, і ніякія апраўданні не дазволяць мне выставіць яго на сваёй персанальнай выставе.

Канешне, нехта можа сказаць, што маё пакаленне не на тое патраціла сваё жыццё. На жаль, палітыка ў нашых думках займала шмат месца, і гэта было шкодна для творчасці. Безумоўна, я зайздрошчу тым людзям, якія жывуць у больш-менш вольным свеце, могуць паехаць і вярнуцца на радзіму, спяваць любыя песні. А маё жыццё вельмі моцна знітавана з лёсам роднай зямлі...

**Гутарыла Наталля ШАРАНГОВІЧ**
*Фота М. ПРУПАСА.*



людзей. Возьмем, напрыклад, серыял пра ментоў, які ідзе цяпер па НТБ. Думаю, што, паглядзеўшы фільм, людзі адчуваюць сябе больш упэўненымі: яны могуць спакойна выйсці на вуліцу, не баючыся, што з імі штонебудзь здарыцца. "Менты" заўсёды перамагаюць злачынцаў.

Перадусім, трэба рабіць карціны для гледачоў, бо нездарма цяпер у модзе серыялы. Яны зразумелыя, даступныя большасці. Нам трэба здымаць добрыя, рамантычныя карціны, дзе б прапагандавалася любоў, нармальнае жыццё, нармальныя адносіны, пакланенне прыгажосці, добрым справам. Ёсць вялікая колькасць літаратурнага матэрыялу, які можна экранізаваць. Цяпер у Беларусі вельмі дрэннае стаўленне да інтэлігенцыі. У нас любяць больш спорт: хакей, біятлон і г.д. Інтэлігентны чалавек павінен стаць адным з герояў нашага кіно.

Наогул задача кіно цяпер — зрабіць высакароднай нашу публіку, якая сёння вельмі злосная, недаверлівая. Трэба пасеяць у сэрцах людзей тое зерне, пра якое вельмі добра напісана ў Біблії. Людзі павінны любіць адно аднаго, бо ўсе мы аднолькавыя і жывём на адзіным зямным шарыку. Глабальная задача кіно — перарадзіць чалавека і вымусіць яго па-іншаму паглядзець на ўвесь свет.

Усе нібыта разумеюць кіно, часам раяць, як лепш зрабіць. Але на самай справе здымаць кіно вельмі цяжка. Так, каб мільёны і радаваліся, і плакалі...

## ЖЫВЕ КІНЕМАТОГРАФ?

**— На з'ездзе кінематаграфістаў, што адбыўся ў пачатку сакавіка, гільдыя кінарэжысёраў афіцыйна выказала недавер намесніку міністра культуры па кіно Ю. Цвяткову.**

— Зараз на студыі шмат нетутэйшага народа: арандуюць памяшканні, карыстаюцца тэхнікай, а мы — рэжысёры студыі знаходзімся ўбаку, як быццам усё гэта не нашае. Мы лічымся другаснымі людзьмі, таму што ў нас няма правоў, закона аб кіно, прадзюсерскага цэнтра. Мы па-ранейшаму жывём у савецкім часе.

Дарэчы, я тады зрабіў памылку, не сказаў, што на гэтым дакуменце пакінулі свае подпісы дваццаць пяць рэжысёраў. Вотум недаверу выказаў не адзін Зайцаў, бо з маім асабістым меркаваннем можна і не лічыцца, а рэжысёры студыі, прынамсі, І. Дабралюбаў, В. Рыбараў, В. Нікіфараў і многія іншыя.

Сістэма кіраўніцтва Міністэрства культуры нагадвае таталітарную, але ж не мы павінны працаваць на іх, а яны на нас, ствараючы цывілізаваныя ўмовы для працы. Яны не плануюць тое, што можна планаваць загадзя, не клапоцяцца пра работнікаў студыі. Рэжысёрам сёння лягчэй, бо яны ўсё жыццё так працавалі: пакуль здымаеш карціну — атрымліваеш заробак, не здымаеш — не атрымліваеш. Мы звыкліся з гэтым. Але ў многіх работнікаў студыі быў нарміраваны працоўны дзень, а нечакана ім прапанавалі кантрактны метад работы. Людзі разгубіліся.

**— Пасля навукова-практычнай канферэнцыі "Беларускае ігравое кіно на парозе XXI стагоддзя", падчас якой дэманстраваліся фільмы, зробленыя на "Беларусьфільме" з 1993 па 1999 гады, многія зразумелі, што за сем гадоў не было пастаўлена ніводнай якаснай карціны.**

— Недзе ў 1995—96 гадах з'явіўся лозунг "Усё маладым!" Дзве выпускніцы БАМа, якія толькі скончылі курс Турава, атрымалі поўнаметражныя дэбюты. Неверагодна! У свой час нашы дэбюты ўяўлялі сабой кароткаметражныя кінанавелы. Чаму б на гэтыя грошы не зняць было альманахі, каб сябе паспрабавалі ўсе маладыя рэжысёры?!

Калі рэжысёр атрымлівае работу, ён, звычайна, запаўнівае, што яго фільм будзе ў Канах ці "Оскара" атрымае. Дзе тыя Каны ды "Оскары"? Можна было б здымаць малабюджэтныя кіно, недарагія фільмы на актуальныя тэмы. Зараз жа тэмы, так бы мовіць, ляжаць на дарозе, любы лёс чалавека — гэта тэма для карціны. Напрыклад: малады чалавек не можа плаціць за вучобу, вылятае з інстытута, вымушаны ісці працаваць. Аднойчы ён сустракае бамжа, які ў свой час скончыў універсітэт, быў прафесарам, а цяпер збірае на вуліцы бутэлькі. І такія карціны не патрабуюць дарагіх касцюмаў, спецыяльна пабудаваных павільёнаў. Сёння жыццё поўнае нечаканасцяў, а значыць — цікавых сюжэтаў. На 6-8 тысяч долараў можна зняць гадзінную карціну, дамовіцца з тэлебачаннем. Напрыклад, стужку "Адзін зусім адзін", якая доўжыцца ўсяго 52 хвіліны, зняў за дзесяць дзён, і каштавала яна 8 тысяч. Для нашых кінематаграфістаў — гэта рэальнае выйсце са становішча.

**— Дзмітрый Яўгенавіч, аднак фільм Дудзіна — ужо сталага рэжысёра таксама ўдалым не назавеш.**

— Вось зноў карціна Дудзіна. "Тры жанчыны і мужчына" — гэта заказная работа: прыехаў маскоўскі драматург В. Мярэжка, прывёз сцэнарый, грошы. Натуральна, гэта не тэма Дудзіна, але ён быў вымушаны здымаць, каб падзарабіць грошай. На жаль, стужка ўяўляе не тое, што б хацелася: прынамсі, такой паненкі, як гераіня Я. Глушэнкі, у Францыі не бывае. Зноў жа, калі б на "Беларусьфільме" быў дырэктар, ён сказаў бы: не, спадары, прабачце, такі матэрыял мы ставіць не будзем — марка студыі. Мінкульту ж патрэбна адзінка...

Уявіце, у 1991 годзе на "Беларусьфільме" здымалася каля 32 стужак. Гэта амаль што "Масфільм" ці кінастудыя імя Горкага. А зараз — толькі адна карціна. І тое, напрыклад, Д. Астрахан бярэ напракат якія-небудзь камзолы са студыі, якія складаюць 1% ад агульнай сметы кошту фільма, а яго карціна лічыцца стужкай "Беларусьфільма".

**— На з'ездзе кінематаграфістаў многія вашы калегі заклікалі не чакаць дапамогі ад дзяржавы, а самастойна шукаць грошы на свае фільмы.**

— Шукаць грошы — вельмі складаная справа. Па-першае, для гэтага трэба мець своеасаблівы талент пераконваць, дамагацца свайго. Ну вось я пайду гаварыць, якая добрая ў мяне будзе карціна, як цудоўна я здыму яе. Ці паверыць мне бізнесоўцы, якія штодня "робяць" грошы? Для гэтага патрэбны прадзюсерскі цэнтр, патрэбны спецыялісты, камунікабельныя людзі, якія добра ведаюць псіхалогію людзей. Я б нават апрануў іх у добрыя касцюмы, каб паважна выглядалі. Прадзюсерскі цэнтр павінен прааналізаваць, падлічыць, колькі карціна прынясе прыбытку, дзе будзе пракатвацца і г.д. Напрыклад, "Тытанік" — гэта цалкам падлічаная карціна: улічаны час, густы гледачоў, акцёры. Рэжысёры — людзі складаныя, многія лічаць пошук грошай зневажальным. Адзін з варыянтаў — своеасаблівыя рэкамендацыйныя лісты для кожнага рэжысёра, дзе б згадваліся, колькі фільмаў ён зняў, у якіх жанрах і г.д. Паверце, аднаму рэжысёру арганізаваць усё гэта немагчыма.

Я ўжо казаў, што ў Маскве цяпер здымаецца шмат серыялаў. Яны ідуць па ўсіх расійскіх тэлеканалах, цудоўна глядзяцца. У нас проста катастрафічнае становішча і самае галоўнае, што мы звыкліся з ім, лічым, што так і павінна быць.

**— Дык сёння мы перажываем крызіс кінастудыі ці крызіс кінематографа?**

— На мой погляд, крызіс кінастудыі. Але студыю можна ўзнавіць: патрэбна альбо пачатковая ссуда, альбо вызваленне ад падаткаў. Трэба зрабіць хоць штосьці, каб нарэшце штурхнуць гэты камень з гары. Такой базы, як у нас, не было нідзе ў Савецкім Саюзе. Толькі натурная пляцоўка 60 гектараў. Гэта амаль што Галівуд!

Вельмі разумным павінен быць генеральны дырэктар. Мне ўяўляецца чалавек, які добра ведае маркетынг, якога прымаюць усе буйныя інстанцыі, які знаёмы з многімі ўплывовымі людзьмі, чалавек, якога паважаюць, які мог бы прадстаўляць нашу студыю на прэстыжных міжнародных кінафестывалях, ведаў замежную мову. Памятаеце, некалі старшынёй Дзяржтэлерадыё быў Г. Бураўкін, які потым прадстаўляў Беларусь у ААН. Вось такі чалавек — цудоўная кандыдатура для "Беларусьфільма".

**Гутарыла
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

## "...Каб Радашкавічы ведаў свет"

**Вядомы вучоны і пісьменнік Фёдар Янкоўскі ў свой час працаваў настаўнікам роднай мовы ў Радашкавічах. Не раз згадваў пасля мястэчка ў сваіх творах, заходзіў на мясцовы керамічны завод.**

**У асартыментнай зале вучоны пакінуў 14 ліпеня 1980 года запіс: "Мае Радашкавічы! Вялікі Янка Купала, непаўторны вучоны Браніслаў Тарашкевіч, вучоны, цудоўны чалавек Сымон Рак-Міхайлоўскі, мудры і просты Антон Лявіцкі, добрыя людзі з роду Сніткаў, што ніколі нічога не шкадавалі чалавеку... Гэта сапраўдныя беларусы з вялікім сэрцам.**

**І не думаў, што тут, у Радашкавічах, простыя рукі простых людзей робяць такое, што можна выставіць, паказаць у любой сталіцы, у любым палацы.**

**Хораша, добра, спеўна!**

**Мой вялікі дзякуй усім вам — і тым, хто думае пра слова, добрую славу Радашкавіч, і тым, хто робіць, умее рабіць, і тым, чый клопат, каб Радашкавічы ведаў свет..."**

**І прыведзены гэтыя словы ў гісторыка-дакументальным нарысе "Нам засталася спадчына" (Мінск, "Тэхнапрынт", 1999). Героі аповеду, які напісаў руплівы краязнаўца і пісьменнік Сымон Белы (Колас) — людзі акцыянернага таварыства "Белмастацкераміка". Прадпрыемства, яго вырабы вядомыя не толькі ў Беларусі, але і ў самых розных краінах свету. Сымон Белы (Колас) не толькі расказвае пра вытворчыя здабыткі прадпрыемства, але яшчэ дзеліцца краязнаўчымі, архіўнымі адкрыццямі з далёкай і блізкай гісторыі мястэчка.**

**Між іншым, у "Белмастацкераміцы" ёсць і свая літаратурная гісторыя. Гасцямі прадпрыемства ў розныя гады былі Максім Танк, Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Пятрусь Макаль, Мікола Гроднеў, Алесь Ставер.**

**Алесь ГЛУШКА**

## Па дарозе да летапісу пра Дубай

**Краязнаўца Анатоль Бацюшка, хаця і жыве і працуе ў Мінску, ніколі не забываецца пра сваю повязь з Пінскай старонкай. Заўсёды шукае ўсемагчымыя гістарычныя звесткі пра родны край, родныя мясціны — мястэчка Дубай і яго ваколіцы (размешчана паселішча за 25 км на захад ад Пінска, на рацэ Піна).**

**Плён руплівасці А. Бацюшкі — сціплая кніжачка "Дубай" (тыраж яе — усяго 50 экзэмпляраў, надрукаваны тэкст заходне-паляшуцкай гаворкай). Няхай сабе і сціплы, але ўжо істотны крок да летапісу жыцця і побыту ў Дубаі, паселішчы, якое ўпершыню згадваецца ў 1595 годзе, калі там табарам спыняўся па дарозе на Пінск казацкі атаман Севярын Налівайка. Месцам выдання кніжачкі пазначаны Пінск.**

**Мікола МІРШЧЫНА**

## Свята дзіцячай кнігі

**У гарадской дзіцячай бібліятэцы N 10 Мінска адбылося свята кнігі, прымеркаванае да веснавых школьных канікул. На сустрэчу з навучэнцамі сярэдніх школ N 70, N 13, гімназіі N 11 завітаў рэдактар выдавецтва "Юнацтва", паэт Уладзімір Мазго.**

**Пісьменнік пазнаёміў прысутных з новымі выданнямі дзіцячай літаратуры, падзяліўся сваімі творчымі планамі. Школьнікі з цікавасцю слухалі вершы, казкі, актыўна адгадвалі загадкі з кнігі Уладзіміра Мазго "Смехапад". Многія юныя чытачы атрымалі ў бібліятэцы аўтографы пісьменніка.**

**Кранула сэрцы прысутных і выступленне вакальна-харэаграфічнага ансамбля "Пацеркі" Бараўлянскага Дома культуры (мастацкі кіраўнік Таццяна Падкапаева), якое спрыяла святочнаму настрою.**

**Н. К.**

## "ЛіМ"-ФОТА



*Павел ВЕРАБ'ЁЎ: "І мёд, і карп — не ўвесь мой скарб!*

Фота А. БАСАВА

ВЫСТАВЫ

## Першая персанальная

Мастачка Алена Бараноўская паказвае ў Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава сваю першую выставу. Дэбютанткай яе ніяк не назавеш. Скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў (за дыпломную работу атрымала залаты медаль), стала сябрам Саюза мастакоў Беларусі, удзельнічала ў многіх калектыўных выставах (нават за мяжой), але персанальную адкрывае ўпершыню менавіта ў Светлагорску.

Алена Бараноўская афіцыйна вучылася ў народнага мастака Беларусі В. Грамыкі. Аднак галоўным настаўнікам і па сённяшні дзень для яе застаўся бацька — прафесар жывапісу, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Анатоль Бараноўскі. Цікавым творцам з'яўляецца і яе муж Віталь Герасімаў, які, дарэчы, узначальвае кафедру жывапісу ў Беларускай акадэміі мастацтваў. І бацька, і муж у свой час знаёмілі ўжо светлагорцаў са сваёй творчасцю.

26 твораў прадставіла Алена Бараноўская на сваёй выставе. Напісаныя ў характэрнай стылёвай адметнасці, яны ўвасабляюць такія знаёмыя нам краявіды роднай Беларусі, і здавалася б, павінны былі б глядзецца даволі аднастайна. Аднак ёй дапамагае глыбокая каляровая насычанасць, прасторавая празрыстасць, каларыстычнасць паветра, відавочная прыхільнасць мастачкі да імпрэсіянізму.

Алена Бараноўская не проста піша пейзажы — яна малюе свае ўражанні ад убачанага і асэнсаванага. Вось чаму ўвасабляе не вясну, а толькі яе прадчуванне ці надыход ("Напярэдадні вясны"), навальнічнае паветра ("Пасля навальніцы"), не сам дзень, а яго мяккі пераход у вечар ("На зыходзе дня").

Гэты ж пераменліва-хісткі настрой адчуваецца ў многіх іншых яе карцінах: "Дарогамі вясны", "На зыходзе зімы", "На Свіслачы", "Цёплы вечар", "Мелодыя зімы"...

Лёгка заўважыць, што Алена Бараноўская — надзвычай патрабавальная да сябе. Яе творы дасканала завершаныя. І сама яна яскрава прысутнічае ў кожнай сваёй рабоце нейкай прасветленай святочнасцю, крыштальнай, патончанай пяшчотай. Усе яе фарбы — пачуццёвыя. Гэта, у прыватнасці, асабліва бачна ў такіх творах, як "Залаты лён", "Азёрны край", "Пейзаж з капліцай", "Раніца", "Залаты кастрычнік". Аднак ад лірычных



карцін Алены Бараноўскай застаецца разам з тым адчуванне манументальнасці, прасторавасці, адкрытасці краявідаў.

Самыя шчырыя словы захаплення выказалі на адкрыцці выставы не толькі светлагорцы, але і блізкія ёй людзі, бацька — Анатоль Бараноўскі, муж — Віталь Герасімаў, сябры — вядомыя мастакі Уладзімір Зінкевіч і Валянціна Сідарава.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: А. БАРАНОЎСКАЯ, А. БАРАНОЎСКІ, В. ГЕРАСІМАЎ у час адкрыцця выставы.*

*Фота В. СТРЫБУКА*

## ВІЎСЯ ХМЕЛЬ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

плечы і галава яго ўжо над лазам, стоячы на лесвіцы, ён павольна паварочваецца ў адзін бок, у другі, але і на вышках — нікога... Выйшлі з хлява, і Шульга патлумачыў: "Гэта быў агляд надворных пабудоў, цяпер зробім тое ж у хаце". Пачалі з залы, потым перайшлі ў кухню. Там у нас было невялічкае падполле, кароткую маснічыну падымалі за колца, бывала, яго і пазногцем ледзь падчэпіш, бо яно ўтопленае ў круглай канаўцы, аднак Шульга ўмудрыўся падчапіць яго мыском чаравіка. Няўжо будзе падымаць маснічыну? Абцасам перавярнуў колца, і яно ўтульна легла на сваё месца.

З кухні — ход у спальню, і Шульга паказаў вачамі на дзверы: "Там хто?" — "Жонка, — адказаў я. — Хворая, з нагою". — "Ведаю, што хворая, — бадай што агрызнуўся Шульга. — Я ўсё ведаю". Ён тройчы, але не часта, а так — раз, другі, трэці — пастукаў у дзверы і адчыніў іх. Жонка ляжала з заплюшчанымі вачамі, адзетая, а ногі яе былі прыкрыты ваўнянай коўдраю. Шульга пачакаў, пакуль яна расплюшчыць вочы, і спытаў: "Баліць?" Жонка не адказала. "Баліць, — сказаў сам сабе Шульга. — Баліць". У ягоным голасе чулася спагада, і я падумаў, што з ім можна паладзіць. Выхапіў з судніка пляшку, а пакуль Шульга, стоячы ў дзвярах, не то сам збіраўся яшчэ нешта сказаць, не то хацеў пачуць нешта ад маёй жонкі, на стале ў мяне паявілася і закусь. Шульга зачыніў дзверы, павярнуўся і сказаў: "Дарма стараешся. Пры выкананні службовых абавязкаў не бяру". Але трохі падумаўшы, зняў фуражку, паклаў на падаконнік і сеў за стол — з такім выглядам, быццам ён тут не госць, а гаспадар. "Не пагрэбуй, Васіль Іванавіч, — сказаў я. — Пасядзім ды, можа, памірымся. Не злуй на Гаркушу, бо яму таксама не соладка на свеце жывецца". "— Многа не лі, — як і не пачуўшы маіх слоў, сказаў Шульга. — Абрыдзела". Я памкнуўся чокнуцца з ім, але ягоны позірк сказаў мне — адставіць!.. Мы выпілі, і на некаторы час Шульга, здавалася, забыў пра мяне. Ды не, не забыў — я адчуў на сабе яго адзін пільны позірк, другі, і нарэшце яго прарвала: "І ты мне абрыдзеў. Бо яшчэ і раўняеш маё жыццё са сваім. Хто я, а хто ты? Мне сам Фідэль Кастра медаль уручаў, бо разам з яго камарадамі я скідаў у мора амерыканскіх агрэсараў, а ты з гэтым жулікам, Лёшкам Гамонам, куды хацеў збегчы? Да іх, да імперыялістаў! Антысавецкую зяцеву карціну хацеў ім пераправіць!.. А яшчэ і цяпер — няма ніякай генетыкі! Ты глядзі ў мяне!.." — "Ды годзе табе, Васіль Іванавіч, — сказаў я. — Дапусцім, я сябе з табою не павінен раўняць, бо ты савецкая ўлада, а я проста ляснік, але і ты не раўняй мяне з гэтым жулікам, бо я чэсны чалавек". — "Ты — чэсны? — здзівіўся Шульга. — Ды за цябе гэты жулік у сто разоў часнейшы. Бо жулік ён і ёсць жулік, а ты — ненадзейны элемент. А гэта нават не ў сто, а ў тысячу разоў горш, чым проста жулік. Пры Сталіне ты даўно ўжо не саджаў бы свой лес, а завіхаўся б недзе на лесапавале — у Комі ці за Уралам. А сёння мы з табою цацкаемся. Але май на ўвазе, я з цябе вока не спускаю, а ёсць і пільнейшыя [illegible] мяне. Думаеш, як зяць твой вялі[illegible] начальнік, дык табе ўсё дазволена?.. Бач ты яго — ён раўняецца са мною!.. Я быў воінам-інтэрнацыяналістам, і сын мой... таксама... прыйшоў на выручку... афганскаму народу... — Апошнія словы ён прамовіў нейкім не сваім, апалым голасам, роспачна, з усяе сілы заплюшчыў вочы і стукнуў па стале кулаком: — Сволачы, свінні!.."

Нечага я не разумеў. У чалавека вялікае гора — сына ў Афганістане забілі, гэта я ведаю, а хто такія сволачы, свінні?.. І яшчэ: словамі ён распякаў, выкрываў мяне — як ненавіснага ворага, а ў ягоных вачах я не заўважаў такой жа лютай нянавісці. Можа, мне толькі так здавалася? Бо ў голасе ў яго зноў тая ж пагроза: "Які сам, такога і ўнука выхаваў. Дэзерціра! Але не думай, што так хітра ты яго схаваў, бо я наперад ведаю ўсе твае схованкі". — "Пабойся Бога, Шульга, — сказаў я. — Ці ж я хаваў яго? Ён жа з дзеўкай недзе!" — "Хаваў, не хаваў, а дзе ён свае любошчы спраўляе, ведаю. Ля Высокай Грывы, у той б...й хатцы. Там мы яго заўтра і сцапаем. Цёпленькага! З дзеўкай ці без дзеўкі..."

Мне здалося, Шульга пазірае на мяне так, быццам хоча зразумець, дайшло да мяне тое, што ён сказаў, ці не. Заўтра яны абложаць і схопяць Валіка — там, у хатцы. Навошта ён мне гэта гаворыць? Ён жа выдае сакрэт!.. Што з ім?.. Няўжо ён мяне папярэджвае?.. Так, папярэджвае: хавай унука, Гаркуша, глыбей у лесе хавай, ратуй ад цынкавай труны!..

Шульга абапёрся аб стол, важка падняўся, надзеў фуражку і моўчкі рушыў да дзвярэй. Але на парозе спыніўся, трохі павярнуўся да мяне і сказаў: "Перадай свайму ляснічаму, што ён свіння".

# Справа вялікай важнасці

## ПРАБЛЕМЫ І ПРЫНЦЫПЫ ВЫДАННЯ ПОЎНАГА ЗБОРУ ТВОРАЎ Максіма ГАРЭЦКАГА

Тэрэза ГОЛУБ

ЗА СВОЙ сямідзесяцігадовы ўзрост беларуская тэксталогія папоўнілася рознымі тыпамі выданняў спадчыны М.Багдановіча, Цёткі, П.Труса, В.Дуніна-Марцінкевіча, Купалы, Коласа, І.Мележа, П.Броўкі, З.Бядулі, К.Чорнага, М.Гарэцкага, М.Зарэцкага, У.Караткевіча, К.Крапівы, М.Лынькова, П.Пестрака, Я.Пушчы... У 90-я гады адыходзячага стагоддзя Аддзелам выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры НАН Беларусі пад кіраўніцтвам М.Мушынскага распачаты новы для беларускага літаратуразнаўства тып выдання — Поўны збор твораў: М.Багдановіча ў 3-х тамах (1992—1995), Янкі Купалы ў 9-ці (з 1995-га). Рыхтуецца да выдання Поўны збор твораў Якуба Коласа. У перспектыве запланаваны Поўны збор твораў Максіма Гарэцкага.

Паколькі выданне такога тыпу патрабуе вялікай папярэдняй працы, то аб праблемах і прынцыпах маючага быць Поўнага збору твораў М.Гарэцкага гаварыць самы час. Тым болей, што паспяховае вырашэнне задачы залежыць не толькі ад тэкстолагаў, але і ад бібліёграфаў, архівістаў, крыніцазнаўцаў, праграмістаў, ад прадстаўнікоў дзяржаўных структур, на плечы якіх кладзецца нялёгкі цяжар фінансавых і іншых пытанняў.

Неабходнасць выдання Поўнага збору твораў класіка беларускай літаратуры прадыктавана самім часам: новымі сацыяльна-палітычнымі і гісторыка-культурнымі пераменамі, якія адбыліся ў грамадстве напрыканцы XX стагоддзя. Галоўнай з іх з'яўляецца дэмакратызацыя шляхоў развіцця нашай краіны, дзякуючы чаму стала магчымым вярнуць у актыўны ўжытак творчую спадчыну выдатных майстроў слова (у тым ліку ахвяр сталінскіх рэпрэсій), напоўніць малавядомыя старонкі гісторыка-літаратурнага працэсу высокім гуманістычным зместам.

Паступова, можна сказаць фрагментарна, прадстаўлялася чытачу адноўленая творчасць М.Гарэцкага. Крыху больш за сорак гадоў таму назад быў адкрыты першы, не ва ўсім і не ўсім дазволены, доступ да творчых святынь пісьменніка. У 1960 годзе выйшла падрыхтаваная А.Семяновічам невялікая кніжачка твораў М.Гарэцкага "Выбранае", у 1973 годзе пабачылі свет "Выбраныя творы" пісьменніка ў двух тамах (складальнікі Д.Бугаёў, Ю.Пшыркоў і Б.Сачанка). На працягу 1984—1986 гадоў калектывам супрацоўнікаў Інстытута літаратуры НАН Беларусі быў выдадзены першы навукова-каментаваны Збор твораў М.Гарэцкага ў чатырох тамах, які пазней папоўніўся двума дадатковымі тамамі: "Творы" (1990) і "Гісторыя беларускае літаратуры" (1992).

Безумоўна, узровень тэксталагічнай падрыхтоўкі згаданых вышэй выданняў нераўназначны, паколькі яны мелі рознае прызначэнне. Першыя два былі разлічаны на масавага чытача, дзе крытыка тэксту не прадугледжвалася. Інакш кажучы, у гэтых выданнях навукова-даследчая праца над тэкстам адсутнічае. Многія незразумелыя, на першы погляд, тэксталагічныя рашэнні з нагоды адбору твораў М.Гарэцкага для таго ці іншага выдання, выбар асноўнага тэксту, методыка каментавання і г.д. знаходзяць тлумачэнне толькі пры вывучэнні гісторыі падрыхтоўкі і выдання літаратурнай спадчыны пісьменніка. Нягледзячы на вялікую адлегласць паміж першым і трэцім выданнем (1960—1986), усе яны нясуць на сабе адбітак уздзеяння грамадска-палітычнай сістэмы. Гэтыя выданні рыхтаваліся і выйшлі ў свет у той час, калі яшчэ дзейнічалі (у рознай ступені) пэўныя ідэалагічныя ўстаноўкі, быў абмежаваны доступ да архіўных матэрыялаў, накладвалася вета на выкарыстанне асобных з іх. Некаторыя творы пісьменніка заставаліся не ўключанымі ў выданне не столькі на падставе крытэрыю выбарачнасці, колькі ў сувязі з забаронаю Галоўліта. Паводле правіл тэксталогіі, тыпы выданняў могуць быць рознымі, але тэксты адных і тых жа твораў у іх павінны быць ідэнтычнымі, адпавядаць апошняй творчай волі аўтара. Названыя выданні М.Гарэцкага, на жаль, налічваюць шматлікую колькасць прыкладаў умяшання ў аўтарскі тэкст, што тлумачыцца ўсё той жа прычынай — прысутнасцю сакрэтнай цэнзуры. Аповесць "Ціхая плынь", напрыклад, у першых двух выданнях друкуецца без другой часткі раздзела "Горкая прамудрасць", тэкст якой першапачаткова публікаваўся як асобнае апавяданне "Бірка". Не пазначаны гэты пропуск і адпаведным значком: [...]. Нягледзячы на тое, што купюры ў тэкстах апошніх двух выданняў у пераважнай большасці маюць адпаведную памету, іх наяўнасць зніжае навуковую якасць тэксталагічнай працы, робіць дрэнную паслугу аўтару, пазбаўляе чытача магчымасці прачытаць кананічны, без скажэнняў, тэкст. Зробленыя Галоўлітам купюры часам носяць невытлумачальны, празмерна перастрахоўчаны, а іншы раз абсурдны характар. Напрыклад, у дакументальна-мастацкіх запісках "На імперыялістычнай вайне" ў раздзеле "Мост" Шалапутаў "крыкнуў нейкаму *месцячковаму* чалавеку [курсіў наш]:

— Пан! Дай прыкурыць... — і ў дадатак злаяў таго *брыднай расійскай* лаянкаю". Так ёсць у М.Гарэцкага. Пры выданні "Выбраных твораў" у двух тамах *"месцячковы* чалавек" стаў *"местачковым"*, а лаянка з *"расійскай"* ператварылася ў *"рускую"*. У "Зборы твораў" слова *"расійскай"* наогул знята. Відаць, спалохаліся, "як бы чаго не выйшла": маўляў, "расійская" лаянка брыднай быць не можа. У выніку — парушана рытміка сказа, страчаны пэўны вобразна-асацыятыўны штрых да партрэта юнкера Шалапутава і таго асяроддзя, у якім апынуўся герой.

Паміма волі складальнікаў і навуковых рэдактараў тамоў, купюрамі пакалечаны таксама тэкст аповесці "Меланхолія", апавядання "Роднае карэнне", драматычнага абразка "Свецкі чалавек"... З тэксту пазнімалі асобныя сказы і абзацы.

Патрэбна адзначыць, што кіраўніцтва інстытута і родныя М.Гарэцкага неаднаразова хадайнічалі перад вышэйстаячымі інстанцыямі аб адмене купюр. Пра адзін з такіх выпадкаў М.Мушынскі піша: "Калі навукоўцам Інстытута, якія рыхтавалі "Камароўскую хроніку" да друку, сталі вядомыя галоўлітаўскія патрабаванні, рэдактар тома Алесь Адамовіч катэгарычна адмовіўся ставіць свой подпіс пад сапсаваным тэкстам перад здачай яго ў набор... Пачаліся доўгія перамовы на самых высокіх узроўнях, сталі шукаць выйсця. Мной як загадчыкам аддзела выданняў і тэксталогіі, дзе рыхтаваўся Збор твораў, і дырэктарам Інстытута В.Каваленкам была складзена тлумачальная запіска, у якой разгорнута даводзілася поўная абсурднасць цэнзурных патрабаванняў. І сапраўды, якая была патрэба выкрэсліваць з тэксту твора назву газеты "Вольная Беларусь"? Хіба ад гэтага газета перастала існаваць? Або радкі пра чырвонаармейцаў, што трапілі ў палон і вымушаны хаваць ці нават знішчаць партыйныя кніжкі. Хіба падобны ўчынак сведчыў аб здрадзе ўчарашніх байцоў? Яны ж не ад перакананняў сваіх адракаліся, а рабілі так, каб застацца жывымі. Тэкст, звязаны з арыштам Лаўрыка, прататыпам якога з'яўляецца Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, сюжэтная лінія Марынкі, роднай сястры Лаўрыка, былі выкасаваны зусім. Дзеля чаго? Каб схаваць ад чытача праўду пра таталітарную ўладу, якая жорстка расправлялася з кожным, хто здаваўся палітычна ненадзейным, хто выказваў пачуцці любові да роднага краю, працаваў дзеля адраджэння Бацькаўшчыны... Але нашы аргументы нікога не пераканалі. Болей за паўгода рукапіс "Камароўскай хронікі" вандраваў па высокіх інстанцыях. Толькі асобныя купюры ўдалося аднавіць, асноўная ж частка так і засталася ў ліку крамольных" ("Полымя", 1993, № 2).

Як бачна, у імя дасягнення галоўнай мэты — выдання Збору твораў М.Гарэцкага — прыходзілася ісці на часовы кампраміс. Толькі шкада, што гэтая часовасць расцягнулася больш чым на дзесяцігоддзе і што адмоўныя вынікі кампрамісу яшчэ і сёння адбіваюцца на розных масавых выданнях, у якіх са Збору твораў М.Гарэцкага тэксты передрукоўваюцца без узнаўлення зробленых раней купюр.

Для М.Гарэцкага спрыяльны час выдання яго літаратурнай спадчыны пачынаецца з выхаду двух дадатковых тамоў Збору твораў пісьменніка: "Творы" (1990) і "Гісторыя беларускае літаратуры" (1992). Гэтыя кнігі не маюць купюр. Сваім зместам, грунтоўнымі гісторыка-літаратурнымі і тэксталагічнымі каментарыямі, даведачным апаратам яны істотна ўзбагацілі шматтомнае выданне, але на першапачатковыя абрысы выбар яго структуры паўплываць ужо не маглі.

Такім чынам, лічым сваім маральным абавязкам зазначыць, што ацэньваючы працу тэкстолагаў у дачыненні да двух масавых і аднаго навукова-масавага выдання М.Гарэцкага больш этычна гаварыць не столькі аб тым, што яны зрабілі, колькі аб тым, што **змаглі зрабіць**. Многія тэксталагічныя пралікі — не іх віна, а наша агульная бяда, якая сёння як "сплачванне доўгу" абавязвае выдаць новы — Поўны збор твораў, прадставіць увазе чытача ў "чысціні і недатыкальнасці" тэксты Гарэцкага-празаіка, крытыка, фалькларыста, перакладчыка, вучонага, грамадзяніна.

Сярод шматлікіх тэксталагічных праблем, якія давядзецца вырашаць у працэсе падрыхтоўкі Поўнага збору твораў, вызначальнымі з'яўляюцца наступныя: забяспечыць паўнату выдання, прадставіць кананічны тэкст твораў, падаць усе іх рукапісныя і друкаваныя варыянты, вытрымаць высокі навуковы ўзровень каментавання. Як падказвае асабістае вопыт вывучэння і выдання творчай спадчыны М.Гарэцкага, а таксама апублікаваныя іншымі даследчыкамі невядомыя тэксты пісьменніка, дапаўняць Збор твораў аўтара ёсць чым. Напрыклад, за рамкамі ранейшага выдання засталіся такія мастацкія творы, як "Бітва на Уле", "Уцёкі Сярэбранага", "Лявоніус Задумекус", "Скарбы жыцця", "Кіпарысы", "Ашуканы палітрэдактар" і інш. Вялікую колькасць не ўключаных у Збор твораў матэрыялаў складаюць літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, многія з якіх падпісаны псеўданімамі і крыптанімамі або надрукаваны наогул без подпісу. Іх пералік заняў бы вельмі шмат месца. Для прыкладу, спашлёмся на знаходкі В.Скалабана, які толькі на старонках "смаленскіх "Известий ..." за 1918 год выявіў 12 невядомых тэкстаў. Надрукаваны яны пад псеўданімамі Дзед Кузьма, Панскі Бізун і графічна рознымі ўтварэннямі ад іх крыптанімамі Д.К, Д.К-а, П.Б. і г.д., якімі карыстаўся М.Гарэцкі. У гэтай сувязі патрэбна адзначыць, што тэкстолагаў чакае вельмі складаная і адказная праца па сцвярджэнні аўтарства. Ёсць выпадкі, калі няма поўнай перакананасці, што той ці іншы матэрыял належыць менавіта пяру Гарэцкага. Таму ў новым выданні творчай спадчыны пісьменніка абавязкова павінен быць раздзел "*Dubia*".

Корпус Поўнага збору твораў М.Гарэцкага істотна ўзбагаціцца таксама за кошт навуковых прац пісьменніка. М.Гарэцкі — аўтар першай "Гісторыі беларускае літаратуры", якая выйшла ў Вільні ў 1920 годзе і мела пяць перавыданняў. Нягледзячы на тое, што апошняе выданне "Гісторыі..." выйшла ў 1926 годзе, у дадатковым томе Збору твораў тэкст кнігі апраўдана друкуецца па перадапошнім, паколькі ў ім аўтар найбольш поўна ўвасобіў сваю задуму і выклаў уласную канцэпцыю развіцця беларускай літаратуры.

Новы тып выдання ставіць перад тэкстолагамі новыя задачы, узнімае новыя праблемы. Як быць з тэкстамі іншых выданняў "Гісторыі..."? Ці іх падаваць у асноўным корпусе Поўнага збору твораў у раздзеле "Іншыя рэдакцыі і варыянты" ці ў "Каментарыях" да тэксту? Правільнае рашэнне, на нашу думку, можна прыняць толькі пры грунтоўным вывучэнні гісторыі тэксту і ў цеснай узаемасувязі з гісторыяй працы М.Гарэцкага над "Хрэстаматыяй беларускае літаратуры: XI век — 1905 год" (1922), манаграфіяй "Маладняк за пяць гадоў" (1928), над шматлікімі гісторыка-літаратурнымі артыкуламі, кнігай "Народныя песні з мелодыямі" (1928) і з улікам "усёй сумы фактараў", якія ўплывалі на ажыццяўленне канцэптуальна прадуманай творчай задумы пісьменніка. Уласны вопыт працы над падрыхтоўкай "Гісторыі беларускае літаратуры" для дадатковага тома Збору твораў пісьменніка ў чатырох тамах прыводзіць да высновы, што першае выданне кнігі (яе тэкст, за выключэннем некалькіх удакладненняў, супадае з тэкстам двух наступных віленскіх выданняў) і трэцяе (М.-Л., 1924) — гэта дзве рэдакцыі "Гісторыі...", якія павінны заняць адпаведнае месца ў асноўным корпусе выдання.

Вывучэнне гісторыі тэксту "Гісторыі..." ва ўзаемасувязі са шматлікімі навуковымі літаратурна-крытычнымі артыкуламі і нарысамі, прысвечанымі творчасці сучаснікаў пісьменніка, аглядными артыкуламі пэўных літаратурных перыядаў і літаратурна-мастацкіх плыняў, напісанымі ім на працягу 1927—1928 гадоў, паказвае, што М.Гарэцкі фактычна працягваў працу. Таму для тэкстолагаў вельмі важна ўлічыць гэты момант пры размяшчэнні матэрыялу ў асноўным корпусе выдання Поўнага збору.

Выхад першай "Гісторыі..." як факта прыпадае на 1920 год, аднак заўважныя імпульсы паглыблена-аналітычнай цікавасці да "беларускага руху", да багацця "славеснага скарбу" выразна выяўлены на раннім этапе творчасці і, у прыватнасці, у артыкулах "Наш тэатр" (1913), "Развагі і думкі" (1914), "Доктар Францыск Скарына" (1917)... Зварот пісьменніка да гістарычных каранёў свайго народа быў выкліканы яго ўнутранай патрэбай, з'явіўся асновай для выпрацоўкі ўласнай гісторыка-літаратурнай канцэпцыі для рэалізацыі творчых планаў і задум. Асэнсаванне працэсу напісання "Гісторыі беларускае літаратуры" ў суаднесенасці з фарміраваннем гістарычнага мыслення М.Гарэцкага, яго творчай эвалюцыяй падказвае, што літаратурна-крытычныя артыкулы аўтара павінны падавацца асобным ад публіцыстыкі раздзелам, які па сутнасці з'яўляецца яшчэ адной старонкай "Гісторыі...", што адначасна стварае цэласнае ўяўленне пра Гарэцкага-літаратуразнаўца.

На рахунку навуковай дзейнасці М.Гарэцкага налічваецца таксама некалькі слоўнікаў, якія ён склаў асабіста і ў сааўтарстве. Першы з іх — "Руска-беларускі слоўнік" (Смаленск, 1918) — падрыхтаваны разам з братам Гаўрылам, другі — "Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік" (Вільня, 1919, 1921, 1925) — складзены пісьменнікам самастойна. Апошняе перавыданне слоўніка было перапрацавана аўтарам і выйшла ў свет пад назвай "Беларуска-расійскі слоўнічак". Трэці — "Практычны расійска-беларускі слоўнік" (Мінск, 1924, 1926) — М.Гарэцкі склаў разам з М.Байковым. Другое выданне кнігі аўтарамі выпраўлена і дапоўнена.

Названыя слоўнікі з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю. Будучы ўключанымі ў Поўны збор твораў, яны прыцягнуць да сябе ўвагу шырокай чытацкай аўдыторыі, дазволяць пераканацца, што гэтыя працы "пакінулі прыкметны след у гісторыі беларускай лексікаграфіі, фактычна вызначыўшы сабою цэлы этап яе станаўлення і развіцця" ("Гарэцкія чытанні", 1997). Дасканала вывучаная дзейнасць М.Гарэцкага на ніве лексікаграфіі дапаможа таксама глыбей зразумець многія факты з біяграфіі пісьменніка, вытлумачыць яго цікавасць да роднага слова, яго "дбанне аб прыгажосці мовы", яго клопат "па збіранні і даследаванні нашага фальклору".

Што тычыцца Гарэцкага-фалькларыста, то гэтая старонка Поўнага збору твораў павінна папоўніцца ўжо згаданай вышэй кнігай "Народныя песні з мелодыямі" (1928), у якую ўключана 318 песень, запісаных ад маці пісьменніка Ефрасінні Міхайлаўны. Яна складзена М.Гарэцкім разам з А.Ягоравым.

Пра Гарэцкага-перакладчыка ў Поўным зборы твораў скажуць апавяданні М.Горкага "Зброднік", "Канавалаў", "Чалкаш", аповесці Ю.Лебядзінскага "Камісары", "Тыдзень", раман А.Фадзеева "Разгром" (усе — 1930), а таксама скарочаны пераклад кнігі Арсеньева "У нетрах Усурыйскага краю" і іншыя.

Пералік таго, што павінна ўвайсці ў Поўны збор твораў М.Гарэцкага, можна працягваць яшчэ доўга. Карацей кажучы, тут патрэбна змясціць **усё** напісанае рукою класіка беларускай літаратуры: завершаныя і незавершаныя мастацкія творы М.Гарэцкага, накіды, планы, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, навуковыя працы, працы ў сааўтарстве, пераклады, паэтычныя спробы пяра, эпісталярную спадчыну, заявы-хадайніцтвы, дарчыя надпісы, прадмовы, апрацоўкі народных казак, тэксты выступленняў у дыскусіях, якія дакладна зафіксаваны ў стэнаграмах, анкеты, лісткі асабовай справы, распрацоўкі лекцый, планы ўрокаў, рэдактарскія заўвагі і да т.п.

Перад даследчыкамі стаіць складаная задача па выяўленні, збіранні і вывучэнні такіх матэрыялаў. А пра тое, што яны ёсць, сведчаць як некаторыя выступленні ўдзельнікаў Гарэцкіх чытанняў, так і публікацыі ў газетах і часопісах. Геаграфія архіўных пошукаў даволі шырокая: Смаленск — Мінск — Вільня. Два невядомыя аўтографы, напрыклад, выяўлены Ю.Гарбінскім у Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы ў фондзе Праваслаўнай духоўнай семінарыі. Яшчэ адзін аўтограф адшуканы С.Шупам у Фондзе БНР у Вільні. Водгук на сачыненне навучэнца Віленскай беларускай гімназіі С.Арсеннева знойдзены У.Васілевічам у рукапісным аддзеле Віленскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Да нядаўняга часу заставаліся невядомымі абставіны апошняга арышту пісьменніка і яго смерці. Р.Гарэцкім і М.Ількевічам выяўлена шмат архіўных дакументаў НКУС, якія расказваюць пра апошнія трагічныя месяцы і дні жыцця М.Гарэцкага, называюць прозвішчы выканаўцаў смяротнага прыгавору.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Змілаваныя вобразы Магілёўшчыны

У Горацкай карціннай галерэі адбылося адкрыццё персанальнай выставы Валерыя і Веры Юрковых.

На выставе Юрковы прапанавалі творы графікі, жывапісу, тонкія далікатныя акварэлі. Цыклы "Горад нашага юнацтва", "Млын", "Пляценне кошыкаў" прынеслі Веры Іванаўне заслужанае прызнанне. "Акадэмія ў Горках" (1985), "Легенды блакітных азёраў", "Шырмы для мастака", "Я. Купала і Я. Колас. Сустрэча" — яе графічныя нізкі, якія ўвайшлі ў многія энцыклапедычныя выданні.

Пасля заканчэння вучобы Вера Юркова была накіравана ў Магілёў, але спачатку год працавала ў Горках. У творчым актыве мастачкі — манументальныя роспісы ў школах Магілёва, ілюстраванне кніг "Дзікае паляванне караля Стаха" У. Караткевіча, "Добры дзень і бывай" В. Казекі, "Легенды Беларусі".

Валерый Юркоў захапляўся каляровай літаграфіяй і раней за жонку звярнуўся да жывапісу. Пад уплывам творчасці Валерыя, разам з якім доўгі час працавала ў адной майстэрні, Вера таксама захапілася жывапісам. Магчыма, таму на выставе не падпісаны прозвішчы і работы абодвух мастакоў нібы перамяшаныя — такім было іх жаданне падкрэсліць творчую блізкасць.

Персанальная выстава Юрковых адбылася і ў Мінску, а ў снежні Вера і Валерый былі запрошаны з ёю ў Парыж. Але дзе б ні былі мастакі — у Горках, Магілёве ці Парыжы, яны навучыліся адкрываць для сябе прыгажосць у наваколлі.

В. БЕЛАВУСАВА,
кіраўнік народнага аб'яднання "Мастацтва"

## Віцебскі акварэліст

У Міхася Ляўковіча, мастака, старшыні суполкі "Віцебская акварэль", выкладчыка малюнка і жывапісу мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педуніверсітэта, двайны юбілей. Сам Міхась жартам называе яго пяцьдзесят на пяць. Мастак днямі адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе выставай уласных акварэляў і разам з тым пяцігоддзе стварэння суполкі, якая адзіная на Беларусі аб'ядноўвае менавіта акварэлістаў. Дарэчы, сябры суполкі мяркуюць паказаць свае творчыя дасягненні і ў Мінску, дзе, акрамя самога Ляўковіча, будуць удзельнічаць віцебскія мастакі Шутаў, Ральцэвіч, Гумен, Сталяроў, Карпан, Ляховіч і іншыя. Шэсцьдзесят шэсць акварэляў на выставе Міхася Ляўковіча аб'яднаны тэмай віцебскага краю. Тут ёсць нацюрморты, тэматычныя кампазіцыі, партрэты. Але найбольш прадстаўлены лірычныя краявіды, якія эмацыянальна і шчыра распавядаюць пра захапленне мастака Віцебшчынай. М. Ляўковіч не цураецца пленэрных выездаў і проста падарожжаў. Сведчанне таму карціна "Шляхам Язэпа Драздовіча".

Людміла НАЛІВАЙКА

## І пісьменніца, і педагог

Удалым быў мінулы год для заўсёды ветлай і чулай жанчыны з Брэста Валянціны Куксы. У бібліятэчцы часопіса "Маладосць", выйшла яе першая самастойная кніжка прозы "...І верыла ў цуд", за якую аўтарка атрымала дыплом і прыз на нядаўнім абласным фестывалі "Берасцейскія зоркі". А днямі Валянціна Міхайлаўна была прызнана найлепшым педагогам вобласці ў 1999 годзе.

Яна працуе ў беларускамоўнай групе гарадскога дзіцячага садка N 52, сваім вопытам часта дзеліцца з калегамі, выступае ў друку з метадычнымі распрацоўкамі.

Некалькі сакавіцкіх дзён педагог і пісьменніца правяла на радзіме ў Іванаўскім раёне. Яе цёпла віталі ў школах вёсак Гнеўчыцы і Крытышын, дзе яна вучылася. Апрача таго, у сустрэчах бралі ўдзел дзіцячая літаратурна-мастацкая гуртка "Пратапінка" з Іванава і "Крынічка" з вёскі Пераруб. Дзеці не толькі з цікавасцю слухалі выступленне госці, а і чыталі ўласныя вершы, спявалі песні, паказвалі тэатральныя інсцэніроўкі. І такім чынам абедзве сустрэчы сталі святам для ўсіх.

Сымон АКСЕНІН

БЫЛОЕ

# Развітанне

### ГОРКІЯ ЗГАДКІ

Раніцай 9 красавіка 1986 года быў я ў Доме літаратара. Ад Людмілы, жонкі Міколы Ракітнага, пачуў: "Памёр Кулакоўскі". Я, утрапёны, з комам у горле, глуха вымавіў: "Калі?!." Яна адказала: "Сёння..." Балюча сціснулася сэрца, аж пацямнела ў вачах. Я вельмі шкадаваў гэтага чалавека. Спачуваў яму ў яго цяжкім лёсе, які выпаў яму на пачатку творчай дарогі, на ўзлёце творчага поспеху.

Я пазнаёміўся з Аляксеем Кулакоўскім у першы пасляваенны год. Нас, некалькі новых супрацоўнікаў маладзёжных газет, выклікалі ў ЦК ЛКСМБ на зацвярджэнне. Аляксей у форме вайскоўца-афіцэра, стройны, падцягнуты, спыніўшыся ў пачакальні, выняў з пакунка анучачку-аксамітку і старанна прайшоўся па халявах ботаў. Мне чамусьці стала дзіўна — я сказаў нешта смешнае, і гэта Аляксей Мікалаевіч не прапусціў міма вушэй.

Амаль праз дзесяць гадоў, вясною 1955 года, калі я прыйшоў на працу ў рэдакцыю новага для моладзі часопіса "Маладосць", яе тады галоўны рэдактар Аляксей Мікалаевіч з усмешкай нагадаў мне той, як ён сказаў, жарцік. А працавалі мы ў добрай згодзе, і я шмат чаго павучальнага займеў ад яго як ад старэйшага таварыша па агульнай працы і як ад кіраўніка творчага калектыву.

Скажу шчыра — для мяне асабіста гэта вялікая, незаменная страта. Я ўвесь дзень не мог супакоіцца. Пазваніў па тэлефоне Алесю Асіпенку, і ён сказаў, што будзе казаць развітальнае слова на паніхідзе.

...Такое наша жыццё. Жыве чалавек, не шкадуючы сіл, нястомна працуе, аддаючы ўвесь жар і энергію сэрца любімай справе, роднаму народу. А што ўзамен?.. Раўнадушша. Абыякавасць. Жорстка і несправядліва аднеслася наша крытыка і, асабліва, чыноўнікі-"апекуны" ад літаратуры да Аляксея Кулакоўскага, які напісаў смелую і праўдзівую аповесць "Дабрасельцы".

Нягледзячы на "превратности" лёсу, творы Аляксея Кулакоўскага будуць жыць доўга; яго творчыя набыткі належна будуць ацэнены народам, якому ён аддаў сваё дараванне, служыў яму аддана і шчыра.

Балюча ўсведамляць, што няма з намі гэтага таленавітага і шчодрага душою чалавека, таленавітага творцы, які мог бы яшчэ глыбей раскрыць сваё дараванне...

Назаўтра ўранку мы з жонкаю снедаем. Ёй на працу трэба выходзіць з дому а палове сёмай. На кухні гамоніць радыё. Жонка нечакана кажа: "Ні слова пра Аляксея Кулакоўскага. Гэта несправядліва. Памёр вядомы, таленавіты пісьменнік. Франтавік. І не знайшлося ні аднаго слова, каб сказаць людзям..."

Пазней перадавалі змест газеты "Звязда" — зноў маўчанне.

А ў мяне закралася думка: а можа, і не памёр чалавек? Такое ж здарылася з вядомым пісьменнікам Міколам Ткачовым, якога было "пахавалі", а ён яшчэ жыў больш тыдня ў бальніцы...

Хавалі Аляксея Мікалаевіча 10 красавіка. Іван Шамякін у сваім развітальным слове адзначыў, што "ўменне пісаць праўду дорага абышлося Аляксею Мікалаевічу..."

Пахавалі яго на закрытых тады ўжо Маскоўскіх могілках. Але не там, дзе ў апошнія гады знайшлі прытулак вядомыя дзеячы культуры і літаратуры, а недзе, скажам так, на выселках. Везлі труну праз усе могілкі, на ўскраіну. Там стаялі голыя чырвоныя слупкі...

На адной з лапінак, між чэзлых сасёнак, працэсія спынілася. Шэрае, нізкае неба. Пранізлівы, вільготны вецер. Халадэча. На схіле пляцовачкі, за якой блішчэла палоска лужыны. Там, далей, балота...

...Перад ухвечанай труной сказаў жалобнае слова Алесь Савіцкі. Гаварыў бойка, нават крыкліва. Пачаў з нейкага верша, па-расейску.

На праводзінах купка людзей невялікая. Хто слухаў, а некаторыя разышліся. Мабыць, адведаць магілкі знаёмых.

— Што ж, пахаваць дазволілі на гэтых могілках, — сказаў хтосьці з купкі, — але месца прыстойнага пашкадавалі...

...Кветак і вянкоў прынеслі даволі. Музыка іграла доўга і працула. Пры жыцці Аляксея Кулакоўскага не шкадавалі зайздроснікі і ачарнялі. І на праводзінах у вечнасць яму выпала кепскае надвор'е. Але ўсе, хто ведаў і працаваў побач, будуць помніць Аляксея Кулакоўскага, вернага сына сваёй Бацькаўшчыны, пісьменніка і патрыёта, байца-франтавіка, шчырца і змагара за справядлівасць.

Над яго курганком роднай зямлі будзе хораша ўзыходзіць сонца!

Пасля былі памінкі. У рэстаране "Журавінка". Застолле было людное, чалавек блізка да ста. Ды пісьменнікаў — не густа.

Першыя словы, як і на паніхідзе, гаварыў Іван Шамякін. Гаварыў, усхліпваючы, праз слёзы. (Гэта былі, як заўсёды ў такіх варунках, пякучыя і шчырыя слёзы.) Іван Пятровіч цёпла і прачула гаварыў пра дружбу з Аляксеем Кулакоўскім на пачат-

# Справа вялікай важнасці

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Дзесяці сярод архіўных матэрыялаў органаў НКУС, магчыма, захоўваюцца таксама апавяданні "Мяшчанскае каханне", "Джаліта", "Маруся", "Вяселле", "Дырыжаблі"..., якія былі напісаны ў мінскай турме на працягу другой паловы ліпеня 1930 — пачатку 1931 года, аб чым стала вядома з лістоў пісьменніка ад 9 лютага і 19 сакавіка 1932 года, дасланых да жонкі.

Новы тып выдання патрабуе не толькі працягу пошукавай працы ў розных архівах, музеях, бібліятэках Беларусі і за яе межамі, але і паўторнага вывучэння архіва пісьменніка, што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ф. 7, воп. 1 і 2).

Акрамя тых твораў, якія ўключаны ў Збор твораў М.Гарэцкага і надрукаваны ў часопісе "Полымя" (1993, № 2), застаюцца неапублікаванымі з фонду пісьменніка яго апавяданні "Юбілеўш" і "Як удава", "Спіс маіх твораў", "Храналогія маіх твораў", "План мае творчасці", шматлікія матэрыялы да "Камароўскай хронікі", "Віленскіх камунараў", "Скарбаў жыцця"... Усе яны цікавыя для чытача і каштоўныя для даследчыка. Складзеныя М.Гарэцкім спісы твораў, напрыклад, даюць звесткі пра час іх напісання, у асобных выпадках называецца месца. З гэтых дакументальных крыніц можна даведацца, часткай якога твора было тое ці іншае апавяданне, у які цыкл аўтар меў намер яго ўключыць у далейшым. Ва ўсіх трох спісах, напрыклад, насупраць назвы "Адна" (1915), ёсць такія аўтарскія паметы: "Рукапіс у Ластоўскага, калі не падабраў Зямкевіч", "Рукапіс у Ластоўскага", "Архіў Ластоўск.[ага]". На жаль, твор пакуль застаецца неадшуканым.

Не змешчаны ў гэтым выданні і матэрыялы да "Камароўскай хронікі". У фондзе пісьменніка захоўваюцца варыянты твора, накіды, планы, урыўкі на рускай мове. Пачынаючы ад чарнавых накідаў на лістах рознага памеру з рознымі колерамі чарніла ці алоўка, з пэўнымі арыфметычнымі падлікамі ці апісаннем таго ці іншага героя, мясцовасці, гаспадаркі, побыту (напрыклад, "Піліпава маленства", "Вёска Зацішак", "Прырода", "Гаспадарка", "Людзі", "Праца", "Вопратка", "Яда", "Паны", "Вялікія паны", "Школа граматы", "Культурнае жыццё", "Месца Цялепенічы") і заканчваючы белавым аўтографам — усё гэта элементы творчай гісторыі, на думку А. Адамовіча, "Галоўнай Кнігі" М.Гарэцкага, твора, які ён па сутнасці працы ўсё сваё свядомае жыццё. "Каб толькі мне напісаць гэтую самую "Хроніку", — прызнаваўся аўтар у сваім жаданні Леаніле Усціпаўне. — Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае". Так склалася, што многа з творчых задум М.Гарэцкага засталося не ажыццёўленым. Не быў выдадзены "Зборнік апавяданняў" (1928), засталіся не дапрацаванымі цыклы апавяданняў "Сібірскія абразкі", "Люстрадзён", не дапісаны "Камароўская хроніка", "Скарбы жыцця", не здзейснена задума па напісанні цыкла апавяданняў пра лёс інтэлігента-выгнанніка і яго блізкіх і інш. У гэтай сувязі перад складальнікамі Поўнага збору твораў узнікае шэраг праблем, звязаных з прынцыпам падрыхтоўкі і размяшчэння тэксту незавершаных твораў, з падачай варыянтаў і рознапрачытанняў.

Без вывучэння гісторыі тэксту кожнага твора (цыкла) і іх узаемасувязі з іншымі творамі пісьменніка прыйсці да правільнай высновы немагчыма. Як слушна адзначыў Д.Ліхачоў, "ні адзін тэксталагічны прынцып, ні адно правіла не валодае ўсеагульнасцю, акрамя адзінага правіла — захоўваць ва ўсім строгую гістарычнасць і ўлічваць гісторыю тэксту. Няма выданняў, якія павінны былі б паўтарацца па сваіх прынцыпах: усе выданні "асаблівыя".

Аб'ектыўнасць і стабільнасць выданняў тэксту не можа быць дасягнута толькі інструкцыямі і правіламі выданняў, хаця для кожнага канкрэтнага выдання гэтыя правілы і інструкцыі неабходны". Зробленая даследчыкамі выснова не з'яўляецца выключэннем для Поўнага збору твораў М.Гарэцкага.

Тэксталогія твораў пісьменніка мае сваю спецыфіку, што тлумачыцца своеасаблівасцю фарміравання творчай індывідуальнасці аўтара, шырынёй яго светапогляду, творчага дыяпазону, адметнасцю мастацкіх тэндэнцый, наватарскім пошукам новых вобразна-выяўленчых сродкаў і непасрэдна звязана з грамадска-палітычнымі абставінамі і нацыянальна-культурнымі традыцыямі. Усё гэта неабходна ўлічваць не толькі пры вывучэнні гісторыі тэксту твора, але і пры размяшчэнні сабранага матэрыялу ў складзе Поўнага збору твораў пісьменніка.

У сувязі з Поўным зборам твораў патрэбна кіравацца мэтай выдання, выпрацаваць індывідуальны падыход з абавязковым улікам шэрагу прынцыпаў і прыкмет, з улікам перыядызацыі творчасці пісьменніка, яе спецыфікі. Усё гэта разам з аналітычнай зверкай тэксту вызначыць ступень пераасэнсавання аўтарам ідэйнай задумы апавяданняў, іх аб'ектыўнага зместу, мастацкай значнасці, дазволіць зразумець месца і ролю ранніх апавяданняў М.Гарэцкага ў станаўленні творчай асобы пісьменніка, а тым самым дапаможа прыняць правільнае рашэнне аб размяшчэнні іх у корпусе выдання.

У сувязі з вышэйсказаным і зыходзячы з таго, што М.Гарэцкі неаднаразова перапрацоўваў раней напісаныя ім творы, лічым правамерным змяніць структуру раздзела "Каментарыі": рубрыку "Іншыя рэдакцыі і варыянты" вынесці ў асноўную частку тома.

Чарнавыя накіды М.Гарэцкага таксама патрэбна падаваць асобнай рубрыкай у асноўным корпусе выдання. Змешчаны такім чынам матэрыял будзе сканцэнтроўваць на сабе ўвагу, а адкрытая магчымасць пазнаёміцца з не апублікаванымі раней тэкстамі з архіва пісьменніка, з фондаў іншых устаноў, са старонак рэдкіх бібліяграфічных выданняў створыць больш спрыяльныя ўмовы для распрацоўкі "занядбанай", як пісаў М.Мушынскі, у беларускім літаратуразнаўстве праблемы творчай гісторыі, многіх тэарэтычных праблем тэксталогіі твораў М.Гарэцкага, дазволіць глыбей спасцігнуць яго феномен.

Новы тып выдання спадчыны М.Гарэцкага патрабуе таксама іншага падыходу да каментарыяў: каб яны былі глыбока навуковымі, вычарпальнымі, рознабаковымі, з адлюстраваннем сучаснага прачытання тэксту пісьменніка і той працы, якую прарабілі тэкстолагі. Канцэптуальнае асэнсаванне створанага М.Гарэцкім, перш за ўсё, павінна быць дадзена ў "Прадмове" да Поўнага збору твораў. У артыкуле неабходна акрэсліць кірунак мастацкіх пошукаў аўтара, яго ідэйна-творчую эвалюцыю, вызначыць месца і ролю ў гісторыі беларускай літаратуры, навукі, культуры, у развіцці эстэтычнай свядомасці грамадства.Разгорнутыя гісторыка-літаратурныя каментарыі да канкрэтных тамоў стануць працягам прадмовы. З улікам дасягненняў нацыянальнага літаратуразнаўства яны шырэй раскрыюць духоўна-эстэтычны змест мастацкіх твораў, адзначаць уклад Гарэцкага ў беларускую лексікаграфію, фалькларыстыку, упершыню па-сапраўднаму ацэняць творчасць Гарэцкага-перакладчыка, унясуць пэўныя карэктывы ў ранейшае традыцыйнае разумен-

ку знаёмства, калі прыехаў у Мінск з вёскі. Яго, Шамякіна, Аляксей прытуліў на прыватнай кватэры, дзе тады жыў у пакойчыку хаты-развалюхі па Лагойскім тракце. Успамінаў будзённае жыццё, шчырасць дружбы і пабрацімства.

Потым выступіў Ніл Гілевіч. Хвалюючыся і са слязамі ўспамінаў свайго друга Пятро Васілеўскі: яны працавалі разам з Аляксеем у рэдакцыі газеты "Сталинская молодежь", а пасля над экранізацыяй аповесці "Нявестка".

Выпілі за памяць нябожчыка па чарцы. Выпілі па другой, трэцяй... Застолле пакрысе ажывілася. Глухая, гнятлівая цішыня змянілася ажыўленай шумлівай гаманой, было такое адчуванне, што прысутныя пакрысе пачалі забывацца, дзеля чаго тут сабраліся. Падхапіўся захмялелы Іван Шальманаў, пачаў крычаць, б'ючы сябе кулакамі ў грудзі, называў Кулакоўскага бацькам і хваліўся, як любіў яго Аляксей Мікалаевіч. Узяў слова Мікола Татур. Яму давялося яшчэ больш напружвацца, бо за гаманой зусім не чутно было, што ён успамінае пра сустрэчы і сумесную працу з нябожчыкам.

Пятро Прыходзька закончыў свае развітальнае слова чытаннем верша, прысвечанага памяці Аляксея Кулакоўскага, сапраўднага нацыянальнага пісьменніка і грамадзянскага дзеяча. Ды яго, мабыць, ужо не слухалі. Многія гаварылі аб сваім. Забыліся, магчыма, па кім звоніць звон...

Завяршаючы жалобны стол, тагачасны дырэктар Літфонду Міхееў звярнуўся да ўдавы нябожчыка Ніны Ульянаўны, якая зусім збалела ад горкіх слёз, са спачуваннем, а закончыў выступленне нечакана: "Пажадаю вам, Ніна Ульянаўна, вашым блізкім усяго добрага, шчасця ў вашым жыцці!.."

**Сцяпан КУХАРАЎ**

не светапогляднага станаўлення Гарэцкага-публіцыста, гісторыка. Нававыяўленыя матэрыялы эпісталярнага жанру дазволяць вучоным яшчэ выразней убачыць у М.Гарэцкім чалавека, які ў жыцці і творчасці кіраваўся прынцыпамі высокай хрысціянскай маралі.

За кошт многіх прагалаў у каментаванні, што маюць месца ў папярэднім выданні спадчыны М.Гарэцкага, за кошт каментарыяў да ўзноўленых купюр тэксту і, галоўным чынам, за кошт каментарыяў да новых матэрыялаў раздзел "Каментары" ў Поўным зборы твораў значна пашырыцца. Самую вялікую колькасць імён, гістарычных і літаратурных фактаў, цытат, крылатых слоў і г.д. прадставяць для каменціравання літаратуразнаўчыя працы, крытычныя артыкулы, публіцыстыка аўтара. Каментары, як ...апна заўважыў С.Рэйсер, — "сатэліт тэксту". І пажадана, каб гэты спадарожнік не адрываўся ад таго аб'екта (тэксту), які ён суправаджае.

Паўната выдання, якасць падрыхтоўкі аўтарскіх (кананічных) тэкстаў, паслядоўная вытрыманасць прынцыпаў каменціравання, вычарпальнасць каментарыя, дакладнасць і рознабаковасць даведачнага апарата, кампазіцыйная адпаведнасць — галоўныя паказчыкі навуковага ўзроўню, культуры тэксталагічнай працы, культуры выдання.

Для паспяховага выхаду ў свет Поўнага збору твораў М.Гарэцкага тэкстолагам неабходна прыкласці яшчэ шмат намаганняў у пошукавай працы, зборы і сістэматызацыі матэрыялу. Каб аблегчыць і паскорыць працэс падрыхтоўкі выдання, патрэбна стварыць расшыраную электронную базу бібліяграфічных дадзеных, якая можа быць выкарыстана па розных прыкметах (подпісу, даце, жанру, месцу напісання твора, месца выдання, крыніцы тэксту, месцу захавання, аб'ёму, водзываў у друку, іншыя рэдакцыі і варыянты і інш.).

Якасна новы ўзровень Збору твораў пісьменніка могуць забяспечыць таксама загадзя вырашаныя пытанні тэксталогіі твораў аўтара (атрыбуцыі, выбару кананічнага тэксту, датавання, рэканструкцыі тэксту) грунтоўна распрацаваная методыка падрыхтоўкі выдання, прадумана складзены план-праспект.

Выхад Поўнага збору твораў М.Гарэцкага павінен працягнуць і ўзбагаціць традыцыі выдання класікаў беларускай літаратуры, стаць значным набыткам гарэцказнаўства і беларускай літаратурнай навукі ўвогуле. Гэта справа агульнанацыянальнай важнасці, паказчык здаровага грамадства, гармонічнасці яго развіцця, трывалых маральна-этычных асноў.

ПАМЯЦЬ

# Урок найвышэйшай вартасці

25 сакавіка пайшоў з жыцця Уладзімір Дамарацкі... Сапраўдны Музыкант, выдатны кампазітар, прафесіянал вышэйшай пробы, варты вызначэння — Майстар. Пайшоў з жыцця Мастак, які ведаў галоўнае: сваё месца ў мастацтве, наканаванае яму звыш. Ведаў, што на гэтым месцы — насуперак бясконцым сумненням, абставінам жыцця, смяротнай хваробе — апантана працуючы, шукаючы, пакутуючы, згараючы, — ён павінен зрабіць усё, каб рэалізаваць дар, дадзены яму Богам.

У сённяшні цьмяны, бязлітасны для высокага мастацтва час, калі віруе і ўладарыць індустрыя масскультуры, Валодзя заставаўся непахісным рыцарам а д в е ч н а г а і ніколі не дапускаў "злобу дня" ў сваю душу, а значыць і ў сваё мастацтва. Ён катэгарычна не прымаў лозунг "Усё на продаж!". Таму яго лёс кампазітара быў нялёгкі і шмат у чым незайздросны, бо свядома і нязменна заставаўся ён творцам таго мастацтва, якое каштоўнае менавіта найтанчэйшымі нюансамі, сваёй "працаглацыю углыб". Цяпер такіх — адзінкі. Але, можа, цывілізацыя і існуе да сённяшняй пары толькі таму, што існуе гэтае племя апантаных, да якога належаў Валодзя Дамарацкі.

Ён ніколі не пісаў музыку да пэўных дзяржаўных дат ці да афіцыйных нагод. У гэтым сэнсе ён ніколі не быў "у времени в плену". Але з другога боку, ён быў менавіта у палоне часу, таму што некаторыя яго творы (напрыклад, Канцэрт для валторны) разлічаныя на ўспрыманне выканаўцы і слухача б у д у ч ы н і, яны напісаныя "навырост". Нявырашаным пры жыцці Валодзі застаўся і лёс яго апошняга буйнога твора — мюзікла "31 чэрвеня" паводле Дж. Прыстлі. Права над ім была адстойваннем права на ўласны голас, права пісаць па волі сэрца, па натхненні, а не толькі на заказ (што, як добра вядома, часцей за ўсё адпавядае тэмам кан'юнктурным). Таму без усялякага дзяржзаказу на працягу двух гадоў стварыў Валодзя гэтую прыцыёзную, дасціпную казку. Ствараў без гарантыі на аплату сваёй працы, страчанай энергіі і здароўя. Ён ужо ведаў, што безнадзейна хворы, і ўсё ж упарта працаваў, бязлітасны да сябе, — працаваў з радасцю, з адчаем, з натхненнем, з пакутлівымі сумненнямі, знаёмымі кожнаму творцу. Працаваў, спальваючы сябе, як заўсёды, бо інакш не мог.

Яму ўсё было цяжка, бо вядома ж, што ўсё лёгка — толькі здольным, таленавітым жа — усё цяжка. Але, самае дзіўнае, што ў яго музыцы ніколі не знойдзеш слядоў гэтых цяжкасцяў, напружаных пошукаў, усяго таго, што стварае кампазітарскую "кухню". Прыгадаць хаця б бліскучы, віртуозна-капрызлівы, пабудаваны на джазавых рытмах Канцэрт для аркестра ці чароўныя дзіцячыя хоры, што трывала ўвайшлі ў рэпертуар лепшых выканаўчых калектываў. Гэта быў цуд, непадлеглы аналізу сакрэт сапраўднага прафесіянала — у выніку руплівай, нялёгкай працы скласці ўражанне, што пісалася лёгка і адразу.



Неверагодная патрабавальнасць Валодзі да сябе, да сваёй ролі ў прафесіі — патрабавальнасць на мяжы бязлітаснага самаедства, яго бесперапыннае "падвышэнне планкі" вартыя самай глыбокай павагі і пашаны. Менавіта такія творцы пакідаюць след у мастацтве, а іх імёны застаюцца ў гісторыі. Валодзя ніколі не дазваляў сабе вынесці на суд слухачоў твор, які ў чымсьці не адпавядаў яго ўяўленням пра дасканаласць, хаця б чымсьці яго не задавальняў, здаваўся "недацягнутым".

Эмацыянальны дыяпазон яго музыкі найвялікшы: ад філасофска-трагічных сімфоній і канцэртаў да джазавых кампазіцый і светлых песень на вершы паэтаў усіх часоў. Ён заўсёды быў здольны авалодаць увагай слухачоў. Калі ў павольнай частцы яго Другой сімфоніі з'яўляўся-гучаў духоўны балгарскі напеў, узнікала пачуццё веры ў тое, што гармонія свету непарушная, а сілы хаосу і зла не такія ўжо непераможныя. Тое ж у фартэпіяннай "Мазаіцы", дзе сярод звар'яцелых рытмаў і дысанансаў сучаснага урбаністычнага побыту раптам з'яўляецца найчысцейшая мелодыя старадаўняга знаменнага распеву — выспачка духоўнасці, чысціні і спакою, дасяганая, здаецца, для кожнага, хто гэтага прагне. Такой выспай у віры жыцця была для Валодзі яго сям'я...

Бліскучыя опусы для медных духавых інструментаў, створаныя Валодзем Дамарацкім, сталіся асобнай старонкай сучаснай беларускай музыкі: квінтэт, Канцэрт для валторны, два канцэрты для трубы, мініяцюры... У Другім трубным канцэрце, адзначаным Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, здзіўляла трагічная глыбіня, увогуле не ўласцівая гэтаму жанру. Трагічнасць музыкі Канцэрта здавалася бездannю віру, хвалявала і прымушала зразумець, што аўтар зазірнуў у тыя глыбіні, куды большасць з нас зазірнуць пакуль не здольная.

Наогул, у сваю музыку Валодзя ўклаў усё тое, што існуе ў жыцці, і так, як у жыцці, яно спалучана: трагічнае ў яго творах суседнічае са светлай лірыкай, узвышана-духоўнае — з гукамі і рытмамі сучаснага побыту, гарэзлівае — з глыбока-драматычным. І ўсё сваё творчае жыццё ён вырашаў найскладанейшую для сучаснага кампазітара праблему — праблему стылю. І вырашыў яе з поспехам. Бо ніколі не быў эпігонам — сляпым перайманьнікам старых формаў, апалагетам нейкага пэўнага ўплыву і ніколі не кідаўся ў эксперыментатарства таго кшталту, калі музыка ўжо перастае быць мовай пачуццяў.

Валодзя пакінуў кола жывых... Смерць дае нам магчымасць зразумець, што кожнае сконччанае жыццё (якое б яно ні было — вартае ці нявартае) — гэта заўсёды ўрок для тых, хто застаўся на зямлі. Развітваючыся з Валодзем, хочацца сказаць яму: дзякуй табе, дружа, за твой урок найвышэйшай вартасці, добрасумленнасці, абсалютнай адданасці прафесіі музыканта, дзякуй табе за ўрок бязменнай патрабавальнасці да сябе. Дзякуй за тое, што ты зрабіў у мастацтве, бо ў тваёй музыцы мы заўсёды будзем знаходзіць не толькі асалоду, але і тую духоўнасць, той вышэйшы маральны імператыў, які працягвае жыць, нават заглушаны вар'яцкай гонкай нашага зямнога існавання.

**Галіна ГАРЭЛАВА**

# ...І гістарычная тэматыка

17 снежня — 95 гадоў з дня нараджэння Мікалая Яромушкіна (памёр 10 чэрвеня 1983 года). Родам з горада Арэхава-Зуева (Расія). Да вайны, скончыўшы два курсы літаратурнага аддзялення 1-га Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта, жыў у Ленінградзе, працаваў літаратурным кансультантам часопіса "Резец". З 1932 года жыў у Маскве, загадваў літаддзелам часопіса "Рост", быў рэдактарам выдавецтва ЦДРАМ, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Мурзилка". У 1943 годзе скончыў Вышэйшае ваенна-педагагічнае вучылішча ў Ташкенце. З 1943 года — адказны сакратар дывізійнай, затым карпуснай газет. У 1950—1964 гадах М. Яромушкін з'яўляўся літсупрацоўнікам газеты Беларускай ваеннай акругі "Во славу Родины". Кіраваў літаб'яднаннем вайсковых пісьменнікаў. Упершыню выступіў у 1925 годзе на старонках часопіса "Красная нива". У Маскве і Ленінградзе выдаў кнігі прозы "Гитара", "Гостья", "Молодой человек". У часопісе "Нёман" надрукаваў аповесці "Государева награда" і "Конец двора его величества". На рускую мову пераклаў асобныя апавяданні А. Карпюка, У. Краўчанкі, І. Пташнікава і іншых пісьменнікаў.

# Яна заўсёды з намі...

Галіна Шылянкова — гэтае імя шмат значыць найперш для Дзяржаўнага музычнага тэатра (колішняй музкамедыі), дзе яна была салісткай балета, потым балетмайстрам-пастаноўшчыкам, рэпецітарам, а таксама — для купалаўцаў, тюгаўцаў.

Народная артыстка Наталля Гайда адзначае, што Галіна заўсёды была чалавекам апантаным, што адносілася да галоўнай справы свайго жыцця з максімальнай адказнасцю і самаадданасцю, што яе без усялякіх аглядак можна назваць сапраўдным прафесіяналам.

Зрэшты, тут непатрэбныя згадкі і спасылкі на аўтарытэты і званні. Іх у Шылянковай не было. Але былі прыязнасць, сяброўства, давер, якімі "ганаравалі" Галіну партнёры па сцэне.

Так сталася, што апошнія гады яна мала працавала ў родным — любімым тэатры. Але для мяне яна назаўжды застанецца экзатычна-эфектнай танцоўшчыцай з "Пацалунка Чаніты", "Баядэры", "Сільвы".

Да ліку лепшых даробкаў Г. Шылянковай трэба залічыць і харэаграфічную версію паводле В. Дуніна-Марцінкевіча ў купалаўскім тэатры. Людзі-манекены, людзі-лялькі ў руках усемагутнага Творцы — гэта было паказана пераканаўча і па-тэатральнаму кідка.

...Але гасне святло. На прыцемленую сцэну выходзіць жанчына. Дзесьці непадалёку яе чакае каханы муж. Але зараз яна толькі з намі — гледачамі. Нам нічога пра яе невядома. І адначасна мы ведаем пра яе ўсё...



Ці паспелі мы ўбачыць глыбіню яе погляду?.. Ці паспелі ёй сказаць добрыя словы?.. Ці паспелі?..

**Віктар КАРАТАЙ**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі Івану НАВУМЕНКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі Ядвігі Паўлаўны.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Нёман" выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі Івану Якаўлевічу НАВУМЕНКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі Ядвігі Паўлаўны.**

**Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне сям'і кампазітара Уладзіміра ДАМАРАЦКАГА — жонцы Таццяне Максімаўне і дачцэ Вользе.**



# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### ЭКРАН

**Беларускае тэлебачанне**

*8 красавіка, субота, 9.40* — "Кнігазбор" з "Урокам літаратуры ў Доме літаратара" да 100-годдзя з дня нараджэння... дзінаў Аркадзя Моркаўкі, з расповедам выканаўчага дырэктара Генадзя Вінярскага пра выдавецкую серыю "Беларускі кнігазбор", з нарысам пра мастачку Алену Лось, якая 40 год прапрацавала ў часопісе "Вясёлка".

*9 красавіка, нядзеля, 10.40* — "Беларускі дом" з наступнымі сюжэтамі: гутарка з галоўным рэдактарам "Голаса Радзімы" Наталляй Салук да 45-й гадавіны з дня выхаду газеты; аб выставе мастачкі Марыі Ісаёнак у Палацы мастацтваў; аб мазырскай паэтцы Галіне Дашкевіч; аб майстрах роспісу па дрэве і вырабе цацак з цеста (вёска Церахоўка пад Добрушам).

### КАНЦЭРТЫ

*8 красавіка* — у к/з "Мінск" з новай праграмай "Толькі з табой" выступяць "Беларускія песняры" (хаця ў афішах "Только с тобой" і "Белорусские песняры").

*19 красавіка* — у той жа канцэртнай зале — N.R.M, "Крыві", "Троіца", "Крама", "Лявоны" ды іншыя нашы рок-гурты прадставяць альбом "Вольныя танцы: новая альтэрнатыва".

## ПАРОДЫІ

### Георгі ЮРЧАНКА

#### Да глыбінных высноў

Ці ж адмаўляць ручай,
Калі навокал спёка?
Як адмаўляць вясне,
Калі зімой радзіўся?
**Нэля ТУЛУПАВА**

***Пытанняў цэлы рой***
***Нястрымна***
***кругам кружыць.***
***Здаецца, што парой***
***І веек не прымружаць.***

***Ці бегчы басанож***
***Шыпульна-колкім борам?***
***Ці будзе заўтра дождж,***
***Калі прайшоў учора?***

***Ці кідацца ў дакор,***
***Калі сусед няўлоўны?***
***Ці рэзаць мухамор,***
***Калі абабкаў поўна?***

***Ці выслухаць папрок,***
***Калі гучыць ён трапна?***
***Ці адмаўляць радок,***
***Калі не вельмі зграбны?***

***Я ведаю: ў жыцці***
***Ісці па сцежках коўзкіх,***
***Каб сэнс***
***высноў знайсці***
***У нетрах філасофскіх.***

#### Трыялет спакусы

Я — тая
спакусная
бязгрэшнасць...
**Тацццяна БАРЫСЮК**

***Цябе я, безумоўна,***
***спакушу,***
***З салодкага палону***
***не ўцячэш ты,***
***Пяшчотамі***
***аблытаны дарэшты.***
***Цябе я,***
***безумоўна, спакушу!***

***Пранікну палкай***
***знічкаю ў душу.***
***Забудзешся пра іншае***
***пра нешта.***
***Цябе я, безумоўна,***
***спакушу,***
***З салодкага палону***
***не ўцячэш ты.***

#### Сарока-выратавальніца

Стужка Стыкса.
Служка Смерці.
Вунь Харон,
здаецца, выйшаў...
**Алена КОТАВА**

***Страх не ведае адхлання.***
***Стыне сэрца***
***ў паняверцы.***
***Прадчуваю паядынне***
***Лесуна са служкай***
***смерці.***

***Князь балотны***
***стогне дзіка.***
***Лезе з цемры вурдалака.***
***Цмок у лютасці вялікай***
***Цягне ў нетры небараку.***

***Дамавы з Харонам разам***
***Раскруцілі злое кола.***
***Моўкне рэха без адказу.***
***Жах пануе навакола.***

***Тут сарока***
***затрашчэла —***
***Зніклі дзікіх здаНяў цені.***
***Праз цябе***
***я ацалела,***
***Даўгахвостае стварэнне!***

## ЭПІГРАМЫ

### Павел САКОВІЧ

#### Уладзімір КРУК

***Ты з творцамі заўжды дружыў,***
***Хоць меў на многіх... негатыў.***
***Не насцярожвае, аднак,***
***Мяне нікольк гэты факт:***
***Заўжды разглядваю з ахвотай***
***Табою зробленае фота.***
***З удзячнасцю за тое, Крук,***
***Перад табой сагнуся ў крук!***

#### Кастусь ЦВІРКА

***Расце, паўнее, што ні твор,***
***Наш "Беларускі кнігазбор".***
***Заняты рукі справаю —***
***І левая, і правая...***
***Ну, не ўдаецца дружбаку***
***Паціснуць аніяк руку!***

#### Казіміру КАМЕЙШУ

***Не лез на высокія ўзгоркі,***
***Хаця не стаяў ён і з краю.***
***Хай іншыя мараць пра зоркі.***
***Яму ж і "Адзор'яў" хапае.***

### Анатоль ЗЭКАЎ

#### Генрыху ДАЛІДОВІЧУ

***То сходзіць ён да князя ў госці***
***То ў госці клічуць землякі...***
***А "Жар кахання" ў "Маладосці"***
***Гатоў раздзьмухваць на вякі.***

### Міхась ПАЗНЯКОЎ

#### Івану ШАМЯКІНУ

***Яго аповесці, раманы***
***Пры ўсіх уладах —***
***Без заганы.***
***З глыбінь народных,***
***Пра народ***
***Ён піша шчыра***
***Многа год.***

#### Васілю БЫКАВУ

***Зусім не робаты, а людзі***
***Ішлі дарогамі вайны.***
***І слава Богу, што не будзе***
***Аб ёй крыклівае маны.***

#### Нілу ГІЛЕВІЧУ

***Ніколі не пісаў***
***Пад барда моднага,***
***Таму і атрымаў***
***Заслужана народнага.***

### Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

— Рыба гніе з галавы? Няма тут нічога новага. Гніе, бо ёсць галава, — злосны́чалі безгаловыя. — Усяму свае межы, галава — каб прымаць ежу. А так — адна мітусня, калі на плячах мазгаўня.

●

Праз некалькі мільярдаў гадоў можа наступіць канец сонечнай сістэмы. Ці варта думаць пра гэта сёння, праблем і так хапае. Ды інфляцыя наблізіла да нас сонца, і некалькі мільярдаў гадоў не здаюцца ўжо такой велізарнаю лічбаю.

●

На хакеі асаблівы акцэнт — ігракоў падбіраў сам прэзідэнт. А што вынікі дрэнныя, дык вінаваты трэнеры. Немагчыма, каб усё дашчэнту правяралі прэзідэнты.

●

Першакласныя спартыўныя збудаванні? Патрэбны ж грошы для іх утрымання, каманды спартсменаў-прафесіяналаў. А балельшчык ці пойдзе, калі плаціць будуць мала?

●

Гэта спявалі перад вайной: "Враг, подумай хорошенько, прежде чем пойти войной — наш нарком товарищ Тимошенко сталинский народный маршал и герой". А зараз пра якіх генералаў пяюць ротныя запявалы?

●

З гандлёвых радоў выштурхнулі старую. "Што ты ім зробіш, — уздыхнула бабуля, — мы прадаём, а яны гандлююць".

## У Доме літаратара

***4 красавіка***
Урок у бібліятэцы СБП, прысвечаны 50-годдзю З. Дудзюк.
***11 красавіка***
Урок у бібліятэцы СБП, прысвечаны 60-годдзю У. Мархеля.
***14 красавіка***
Вечарына, прысвечаная 80-годдзю Аляксея Карпюка.
***15 красавіка***
Урок Л. Турбіной у бібліятэцы СБП.
***17 красавіка***
Пасяджэнне секцыі прозы. Абмеркаванне творчасці маладых.
***19 красавіка***
Пасяджэнне секцыі перакладу.
***21 красавіка***
Пасяджэнне секцыі паэзіі.
***21 красавіка***
Да 55-й гадавіны Дня Перамогі. Чытацкая канферэнцыя ў 120-й Рагачоўскай дывізіі: "Вялікая Айчынная вайна ў беларускай літаратуры".
***26 красавіка***
Пасяджэнне Камісіі па сувязях з замежнымі літаратарамі.
***27 красавіка***
Вечарына, прысвечаная 60-годдзю Віктара Казько. Вялікая зала.
***28 красавіка***
"Круглы стол" з латышскімі літаратарамі. Канферэнц-зала.
***28 красавіка***
"Круглы стол": "Пачатковая школа — праблемы выхавання". Сумесна з часопісам "Пачатковая школа".

## У паэтычным тэатры "Зніч"

***2—4 красавіка***
Гастролі ў Верхнядзвінску Віцебскай вобласці
***6 красавіка***
"Выгнанне ў рай" — выканаўца Галіна Дзягілева. Пачатак у 19.00.
***9 красавіка***
"Чарнобыльская малітва" (Святлана Алексіевіч) — спектакль калектыву Габрыелеўскага СДК. Пачатак у 19.00.
***12 красавіка***
"Віленскія мроі" — монаспектакль паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай і вершаў Надзеі Артымовіч. Выканаўца — Галіна Дзягілева. Пачатак у 19.00.
***14 красавіка***
"Зорка спагады". Вечар з Рыгорам Барадуліным, Алесем Камоцкім, Вячаславам Галузам і інш. Пачатак у 19.00.
***17 красавіка***
"Нобіль — Барвяны ўладар" — спектакль паводле аповесці "Сівая легенда" Уладзіміра Караткевіча. Выканаўца — з. а. Беларусі Уладзімір Шэлестаў. Пачатак у 15.00.
"Не праклінай, што я люблю..." — монаспектакль паводле вершаванага рамана "Родныя дзеці" Ніла Гілевіча. Выканаўца — Мікола Лявончык. Пачатак у 19.00.
***24 красавіка***
"Кроткая" — монаспектакль паводле аднайменнага твора Фёдара Дастаеўскага ў перакладзе А. Каляды. Выканаўца — з. а. Беларусі Уладзімір Шэлестаў. Пачатак у 18.00.

## Беларускі калегіум

**ЗАПРАШАЕ**

***4 красавіка***
Лекцыя Алеся Смаленчука (Гародня) "Польская грамадскасць Беларусі і Літвы 19 — пач. 20 ст. як этнакультурны феномен"
***11 красавіка***
Прэзентацыя кнігі Чэслава Мілаша "Скуты розум" (выданне серыі "Бібліятэка Фрагменты")
***18 красавіка***
Лекцыя Леаніда Галубовіча "Творца і ўлада"
***25 красавіка***
Прэзентацыя кнігі Уладзіміра Арлова "Таямніцы Полацкай гісторыі" з удзелам аўтара.
Мерапрыемствы адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16).
***Пачатак у 18.30.***



*Фотакалаж Ул. КАГУЦЕНКІ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-815**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 30.03.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1582

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12